ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 3 (2353) 20 студзеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 30 рублёў.

## ЦІ АДБУДЗЕЦЦА ВЫБУХ?




**Мітынгі цяпер нікога не здзіўляюць. Здзіўляе стаўленне да іх як формы пратэсту розных слаёў насельніцтва супраць сённяшняга сацыяльнага стану грамадства. У сталіцы краіны на многіх прамысловых гігантах -- аўтамабільны, трактарны, "Інтэграл", -- як фігуральна абрысаваў становішча наш прэм"ер, працоўны люд замест таго каб выпускаць прадукцыю, рыбу вудзіць на Мінскім моры. Заводы стаяць -- рабочыя ў вымушаным адпачынку, які працягнецца Бог ведае колькі.**

**Здавалася б, на мітынг-пратэст, арганізаваны Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі, што адбыўся 12 студзеня ў Мінску на праспекце Машэрава, ля Палаца спорту, народ валам паваліць. А сабралася ўсяго тысячы са дзве. А ў Гомелі, Магілёве, іншых гарадах Беларусі, дзе становішча ў прамысловасці не лепшае, чым у сталіцы, акцыі пратэсту, арганізаваныя тымі ж прафсаюзамі, насілі і зусім дробнамаштабны характар.**

**А між тым лозунг, пад якім адбываўся мітынг у Мінску, вельмі ж надзённы: "Не -- збядненню народа!" Выступаючы перад тымі, хто прыйшоў на праспект Машэрава, прафсаюзныя функцыянеры патрабавалі ад урада ( які ўсе таўкуць, а эфект ад гэтага -- што гарохам аб сцяну) зніжэння падаткаў, скарачэння на чвэрць апарату дзяржаўнага кіраўніцтва, павышэння на 50 працэнтаў зарплаты, прыцягнення да адказнасці вінаватых у карупцыі і рабаванні народнага дабра.**

**Выбух народнага гневу, на які разлічвалі арганізатары гэтай шырокамаштабнай акцыі пратэсту, не адбыўся. Ці то лозунгі не адпавядаюць? Ці ва ўрад веры аніякай? Ці народ у нас такі!**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ:** мітынг у Мінску на праспекце Машэрава.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*"ЧОРНАЯ КАРТА" Уладзіміра ДУДЗІЦКАГА*

## "НЕ ЗНІШЧАЛЬНЫЯ ДУШЫ ЛЮДСКІЯ..."

**Як той колас у полі, адзін...
Падстаўляючы сонцу
грудзі,
гавару сам сабе я: ідзі,
куды сэрца вядзе, --
не заблудзіш...**

*("Чорная карта").*

Гэта словы Уладзіміра Дудзіцкага, беларускага паэта-эмігранта, жыццё якога супярэчліва-непаўторнае загадкава-трагічна абарвалася там, куды яго прывяло сэрца -- на Бацькаўшчыне, у пачатку 70-х гадоў. І да гэтага часу яго жонка, дзеці, якія жывуць у ЗША, расшукваюць сляды роднага чалавека. Калі ў 1992 годзе я была ў Глен-Кове (каля Нью-Йорка), працавала ў архіве вядомага пісьменніка Масея Сяднёва, мне з Монтэрэя патэлефанавала Вера Уладзіміраўна, жонка У.Дудзіцкага, з просьбай: ці не змагла б я знайсці яго сляды, звесткі пра родных У.Дудзіцкага на Беларусі. Даведацца пра бацьку асабліва хацелася б малодшай з дачок (Ганулька, як ласкава называў яе бацька, жыве ў Сан-Францыска).

Прайшоў амаль год з таго часу. Пошукі мае не далі асаблівых вынікаў, таямніца яго знікнення, калі ён, спакутаваны насталыгіяй, прыехаў з Венесуэлы ў СССР, пакуль што і застаецца таямніцай, хаця жыве надзея: нешта ж павінна прасвятліцца ў лёсе таленавітага паэта. У нас надышоў такі час, калі даследчыкаў літаратуры, гісторыкаў з 1991 года дапусцілі да архіваў НКВД-КДБ. Працуючы ў гэтых архівах, высвятляючы лёсы і вяртаючы літаратурную спадчыну рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў, я прасіла даць мне магчымасць пазнаёміцца са справай У.Дудзіцкага, быў рэпрэсіраваны ў 1933 годзе як "нацдэм". Але замест усёй справы мне прынеслі толькі копію яго ўласнаручна напісанай біяграфіі, у якой У.Дудзіцкі (а сапраўднае яго прозвішча Гуцька) пісаў па-расійску:

"Родился я 23-го декабря 1910 г. в дер. Дудичах Дудичского с/с Пуховичского района. Ранее -- Дудичская волость, Червеньский повет. Происхожу из крестьян, из бедняцкой семьи. Родители мои неграмотные. Причем отца совсем не помню, умер, когда мне было всего полгода. Воспитывался в чрезвычайно плохих условиях. Три старшие братья и четыре сестры вынуждены были работать на своем хозяйстве, помогать матери, идти на ежедневные заработки, чтобы прокормиться и не пропасть с голоду. Бесхлебица была постоянным гостем дома. Из всей семьи только один брат (старший) сяк-так окончил народную школу, а остальные бросили свое обучение на первом году, и три сестры совсем безграмотные. Такие домашние обстоятельства в первый год моего рождения не могли не наложить отпечатка на мое дальнейшее развитие, формирование мировоззрения.

В империалистическую войну два старших брата были взяты в армию. Положение матери еще ухудшилось, и, как она говорит, надо было думать о том, чтобы хотя не умереть с голоду. Так прошли мои первые детские годы. В это время мне было уже 7 лет. Пора было идти в школу. Но было не до этого, не было абсолютно никаких возможностей, осталась дома одна только мать. Сестры и те были выгнаны на разные военные повинности.

По окончании войны братья вернулись домой, на "хозяйство", которое до этого не могло прокормить семью, а теперь, разрушенное войной, совсем пришло в упадок и вынуждало мать искать какой-нибудь выход. Она вышла повторно замуж и вместе со мной взяла еще одного брата (старше меня) и младшую сестру. Таким образом, я с 7 лет начал воспитываться уже при отчиме. Снова не сладко. Хозяйство отчима было такое же, как и бывшее отцовское -- бедняцкое. Но теперь я начал учиться и в 1926 г. окончил Дудицкую народную школу, мне было уже 16 лет. Хотелось идти учиться дальше. Но нельзя было. Отчим не хотел заботиться обо мне, кроме того на учебу не было средств. И только в 1927 г., когда старший брат, который остался на отцовском хозяйстве, согласился хоть немного помочь матери, я смог пойти учиться в семилетку. Это меня очень обрадовало, я охотно начал учиться. Но в 1928 г. брат умер и я должен был бросить учебу. Досталось несладко, при моей настойчивости и стремлении учиться я с трудом, но все-таки в 1930 году окончил семилетку. Теперь уже легче стало. Я знал, что при моем социальном положении дорога в учебные заведения мне будет открыта. Я смогу учиться на средства государства. У меня было желание учиться на преподавателя, мне самому довелось почувствовать методы и приемы старых учителей. Я решил поступить в педтехникум.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## З'ЕЗД ФЕРМЕРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



**Гэта ўжо пяты па ліку з'езд фермераў. Праходзіў ён у Мінску ў знакамітым тэатры імя Янкі Купалы. Сюды сабраліся каля трохсот дэлегатаў з усіх абласцей Рэспублікі Беларусь.**

**Са справаздачным дакладам перад прысутнымі выступіў старшыня Беларускага саюза фермераў Канстанцін Ярмоленка.**

**З'езд віталі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, госці з іншых краін.**

**НА ЗДЫМКУ:** удзельнікі з'езда фермераў.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**(Нататкі са з'езда фермераў мы змесцім у наступным нумары газеты).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*СВЯТОЧНАЕ БОГАСЛУЖЭННЕ*

7 студзеня ў Мінску ў Свята-Духаўскім кафедральным саборы прайшло святочнае богаслужэнне з нагоды Нараджэння Хрыстова з удзелам мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. На ўрачыстасцях прысутнічаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч (на здымку). Мітрапаліт Філарэт выказаў падзяку спікеру беларускага парламента Станіславу Шушкевічу за аказаную ўвагу і дапамогу ў справе паляпшэння становішча праваслаўнай царквы, нягледзячы на цяжкія эканамічныя ўмовы ў рэспубліцы.



*АСАБІСТЫ ЛІСТ*

## ПАСЛАННЕ ПАПЫ РЫМСКАГА

**Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў прэсслужбе Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч прыняў Архібіскупа Мітрапаліта Мінскага і Магілёўскага Казімера Свёнтака па яго просьбе.**

**Казімер Свёнтак афіцыйна ўручыў кіраўніку Беларусі асабісты ліст Папы Рымскага Іаана Паўла II.**

**Падчас гутаркі абмеркаваны пытанні наладжвання канструктыўнага дыялога каталіцкага касцёла з дзяржаўнай уладай Беларусі. Падкрэслівалася, што ўпершыню пасля ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Святым прастолам і Рэспублікай Беларусь Папа Рымскі Іаан Павел II звяртаецца з асабістым пасланнем да Станіслава Шушкевіча. Выказана думка, што ўзважаная пазіцыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у адносінах да вернікаў розных канфесій, замацаваная дзяржаўн[illegible]кана-даўствам, стварае спрыяльныя ўмовы д[illegible]ажыццяўлення норм свабоды і веравызнання.**

*СУПРАЦЬ УРАДАВАГА РАШЭННЯ*

## АВАНТУРА НАМЕНКЛАТУРЫ

**Каардынацыйны камітэт аб'яднаных дэмакратычных сіл "Вясна-94" выступіў з заявай, дзе асудзіў рашэнне ўрада Беларусі, згодна з якім шэраг заводаў і арганізацый, што ўваходзяць у інфраструктуру рэспублікі, ператвараюцца ў сумесныя прадпрыемствы, кантрольны пакет акцый якіх перадаецца замежным фірмам. Гэта тычыцца, у першую чаргу, Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў, а таксама іншых прадпрыемстваў з сучаснай тэхналогіяй.**

**"Падрыхтоўка дакументаў па перадачы Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода рабілася з парушэннямі заканадаўства", -- гаворыцца ў заяве.**

**Аўтары заявы таксама сцвярджаюць, што расійская кампанія "Славнефть", якой па незразумелых прычынах трэба пералічыць кантрольны пакет акцый завода (51 працэнт), яшчэ нават не зарэгістравана ў Расіі.**

**Такое становішча, на думку каардынацыйнага камітэта "Вясны-94", дае падставы лічыць, што стварэнне такіх сумесных прадпрыемстваў з'яўляецца эканамічным махлярствам, якое арганізавала наменклатура Беларусі і Расіі.**

*СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ АБАРОНЫ*



**У Гродне адбылася рабочая сустрэча міністра Нацыянальнай абароны Польшчы П. Каладзейчыка і міністра абароны Рэспублікі Беларусь П. Казлоўскага. Пасля перагавораў па пытаннях супрацоўніцтва паміж двума міністэрствамі госця пазнаёмілі з бытам і баявой вучобай адной з часцей Гродзенскага гарнізона.**

**НА ЗДЫМКУ: у час перагавораў.**

*ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## З'ЕЗД РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПАРТЫІ

**Днямі намечана правесці ўстаноўчы з'езд Рэспубліканскай партыі. Яна падтрымлівае палітычна, эканамічна і арганізацыйна ініцыятывы кожнага грамадзяніна, накіраваныя на дасягненне асноўнай мэты Рэспубліканскай партыі -- забяспечыць штогадовы рост нацыянальнага даходу рэспублікі. Любая рэформа павінна праводзіцца такім чынам, каб ужо праз год яна давала станоўчы вынік.**

**РП разглядае сябе як рэспубліканскі арганізацыйны штаб па каардынацыі дзеянняў палітычных і грамадскіх арганізацый, асобных грамадзян ці груп з мэтай аздараўлення эканомікі рэспублікі як суверэннай дзяржавы.**

**РП не навязвае камандных метадаў узаемадзеяння, яна толькі прапаноўвае дэмакратычнае супрацоўніцтва з абмеркаваннем усіх ідэй і прапаноў у выглядзе канкрэтных праектаў рэформ з выкарыстаннем колькасных ацэнак іх эфектыўнасці. Гэта дазволіць РП, з аднаго боку, супрацоўні[illegible] з арганізацыямі і грамадзянамі рознай палітычн[illegible] арыентацыі, з другога боку, даваць ім параўнаўчую экспертную ацэнку канструктыўнага характару, карысную ў іх далейшай дзейнасці.**

*"Я папрасіў падрыхтаваць мне д[illegible]ку, колькі прадпрыемстваў у Мінску не [illegible]ацуюць. Баюся назваць вам гэтыя лічбы. Яны настолькі страшныя, што я папрасіў іх удакладніць. На жаль, на вядучых прадпрыемствах шмат людзей не па сваёй віне сёння не могуць працаваць. І гэта красамоўнае сведчанне таго, што стан нашай эканомікі крытычны. Таму размовы аб тым, што, маўляў, мы ўвойдзем у адзіную рублёвую зону і адразу вырашым усе нашы праблемы, я не ўспрымаю. Гэта ўтойванне хваробы. Яе трэба лячыць, а не ўтойваць ад доктара. Мы самі павінны знайсці спосабы станаўлення нашай эканомікі на рыначных адносінах. Аб нярыначных, калі мы ўваходзім у саюз з Расіяй, ужо не можа быць і размовы. Калі гэта не адбудзецца, рэспубліцы пагражае страшны абвал. Яшчэ раз паўтаруся: рублёвая зона не выратуе нас ад штодзённай цяжкай работы".*

*(З інтэрв"ю Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С.ШУШКЕВІЧА карэспандэнту Белінфарма).*

*ДУХОЎНЫ СВЕТ*

## РЭЛІГІЙНЫЯ ВЫДАННІ

**Выйшаў першы нумар беларускамоўнага тэалагічнага часопіса "Рыцар Беззаганнай", які выдаецца Беларускай каталіцкай грамадой сумесна з ордэнам францішканаў. Публікацыі нумара прысвечаны святому Максіміляну Кольбэ, які і заснаваў часопіс у 20-я гады нашага стагоддзя ў Гродне, а таксама Маці Божай.**

**А Беларускае праваслаўнае брацтва Трох віленскіх мучанікаў выдала "Беларускі праваслаўны каляндар" на 1994 год. Ён багата ілюстраваны, надрукаваны на беларускай мове, змяшчае раздзел, прысвечаны беларускім праваслаўным святыням.**

## МУФТЫЯТ У МІНСКУ

**Свой орган кіравання -- муфтыят -- зноў маюць мусульмане Беларусі. Выбраны ён з дзевяці чалавек на ўстаноўчым сходзе, які адбыўся ў сталіцы рэспублікі.**

**Муфтыят існаваў у Беларусі да 1939 года, потым быў ліквідаваны, а яго функцыі для еўрапейскай часткі былога СССР і Сібіры выконваў муфтыят, размешчаны ва Уфе. Цяпер адноўлена і пасада вышэйшай рэлігійнай асобы мусульман Беларусі -- муфтыя, ім выбраны Ісмаіл Александровіч.**

**Створаны Саюз мусульманскай моладзі Беларусі. У адпаведнасці са статутам, ён будзе займацца стварэннем у рэспубліцы рэлігійных школ, навучаннем моладзі за мяжой, арганізацыяй турызму, дабрачыннай дзейнасцю.**

*КУПІЦЕ АЎТОБУС*

## НА ЧЫМ ЕХАЦЬ?

**Далейшае скарачэнне пасажырскіх перавозак недапушчальнае -- гэта прызнана ўжо не толькі прадстаўнікамі транспартнай галіны, але і ўрадам Беларусі.**

**Паводле звестак БелаПАН, Вярхоўны Савет прыняў рашэнне набыць за кошт рэспубліканскага бюджэту ў 1994 годзе прыкладна 400 новых аўтобусаў. Гэта, вядома, не вырашыць вострую транспартную праблему, аднак дазволіць хоць як-небудзь падтрымаць парк, дзе частка аўтобусаў так знасілася, што ўжо практычна не ў стане функцыяніраваць.**

**Аднак нават пры дапамозе ўрада да транспартнага дабрабыту, дзе найбольш паказальным быў 1991 год, яшчэ вельмі далёка.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

САДЗЕЙНІЧАЦЬ развіццю навукі, культуры і хрысціянскіх традыцый, дапамагаць маладзёжнаму эстэтычнаму руху, удзельнічаць у будаўніцтве храмаў, дзіцячых дамоў, дамоў міласэрнасці -- такія напрамкі дзейнасці бачыць Усебеларускі жаночы фонд імя Ефрасінні Полацкай. Ён арганізаваны ў канцы мінулага года. Узначальвае фонд пісьменніца Валянціна Коўтун.

У СТАЛІЦЫ сёння шукаюць працы 3 800 інжынераў, тэхнікаў, каля 700 эканамістаў і матэматыкаў, шэраг прадстаўнікоў іншых спецыяльнасцей. Толькі кожнаму другому спецыялісту, якія скончылі ў 1993 годзе мінскія ВНУ, была прапанавана работа.

ПЕРШЫ заходні банк "Commerzbank" адчыніў свае прадстаўніцтва ў Мінску. Заснаваны ў 1870 годзе ў Гамбургу, "Commerzbank" мае тысячу прадстаўніцтваў у Германіі і 50 філіялаў у 30 краінах свету. Нямецкі банк плануе не толькі рабіць паслугі беларускім кліентам, але і дапамагаць наладжваць банкаўскую справу ў Беларусі.

ПАКУЛЬ мы ездзім у Літву без віз. Увядзенне Літвой візавага рэжыму для грамадзян Беларусі зноў адкладзена. На гэты раз -- да 1 сакавіка 1994 года. У студзені павінны адбыцца беларуска-літоўскія перагаворы, на якіх, відаць, і будзе канчаткова вырашана візавае пытанне.

У ДЗЕНЬ Хрыстовага Нараджэння ў Мінскім кафедральным саборы адбыўся канцэрт музыкі званоў. Яго выканалі юнакі з Саюза званароў, які ўтвораны пры Кірыла-Мефодзіеўскім праваслаўным брацтве. Над сталіцай упершыню ў гісторыі Беларусі плыла чароўная мелодыя званоў.

"ФОРУМ берасцейцаў" плануецца правесці ў канцы ліпеня. Такую вялікую сходку ўсіх выхадцаў з Брэстчыны, дзе б яны ні жылі сёння, наважыліся арганізаваць сябры аб"яднання "Стары горад". Дапамагчы ім узялося МЗС Беларусі на чале з самім Пятром Краўчанкам.

ЛІСТ В.Кебічу накіравала Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. У ім БЗВ просіць прэм"ера звярнуць увагу на цяжкае становішча беларусаў у Літве. Пры патуранні ўладаў там робяцца напады на актывістаў беларускіх нацыянальна-культурных арганізацый, а самі арганізацыі пазбаўляюцца памяшканняў, якія ім належаць.

МІНСК, відаць, хутка захлынецца ў рознага роду фальшыўках. Да падробленых долараў, рублёў і "зайцоў" мы ўжо прывыклі. Цяпер пайшлі ў "серыю" фальшывыя праязныя білеты. Толькі за адзін дзень у метро кантралёрам трапілі ў рукі 500 такіх білетаў. Дакладна ўстаноўлена, што яны прадаваліся ў кіёсках "Саюздруку".

ЗА АДНО толькі паўгоддзе 1993 года ў 168 выпадках мясцовыя Саветы Беларусі парушалі закон, наўмысна яго ігнаруючы. У асноўным -- гэта парушэнні зямельнага заканадаўства: незаконнае выдзяленне ўчасткаў для індывідуальнага будаўніцтва.

## ФОНД МІГРАЦЫІ

# АКНО Ў ЕЎРОПУ ЦІ ПРАХАДНЫ ДВОР?

**Газета "Голас Радзімы" пастаянна звяртаецца да праблем міграцыі, бежанцаў, а таксама вяртання этнічных беларусаў на сваю гістарычную радзіму. Не так даўно ў рэспубліцы зарэгістраваны рэспубліканскі грамадскі фонд "Міграцыя". Аб тым, чым ён будзе займацца, расказвае яго кіраўнік Аляксандр БУДЗІЛОЎСКІ.**

-- **Аляксандр Васільевіч, як нарадзілася ідэя стварэння такой арганізацыі?**

-- Многія нашы суайчыннікі, з якімі даводзіцца сустракацца, з настальгіяй і болем гавораць пра радзіму, мараць вярнуцца сюды. Шмат просьб аб дапамозе. У дзяржавы ж зараз іншыя клопаты. У сувязі з матэрыяльнымі і фінансавымі праблемамі прадпрымаемыя Дзяржаўнай міграцыйнай службай спробы рэгуляваць гэтыя працэсы не прыводзяць да поспеху. Разумеючы гэта, мы падтрымліваем пастаянныя кантакты з мшграцыйнай службай.

У любой справе павінны быць цэнтр, людзі, якія маюць энергію, жаданне і пэўныя магчымасці, каб рабіць справу. Стваральнікі фонду -- фізічныя асобы, прадпрымальнікі, банкіры, дзяржаўныя служачыя, якія працуюць на грамадскіх пачатках. Чаму такое кола заснавальнікаў? Ва ўмовах разбураных эканамічных сувязяў многія прадпрымальнікі імкнуцца напрамую звязацца з прадпрымальнікамі ў розных рэгіёнах СНД. Сярод гэтых людзей шмат беларусаў, і паколькі ў многіх рэспубліках апошнім часам абвастраецца нацыянальнае пытанне, ускладняецца палітычная сітуацыя, у гэтых людзей узнікае шмат праблем, а ў нас -- жаданне ім дапамагчы. Між іншым, многія з іх вельмі добрыя спецыялісты, якія, апынуўшыся тут, маглі б аказаць вялікую дапамогу сваёй радзіме.

-- **Якія, на ваш погляд, сёння тэндэнцыі міграцыйнага працэсу?**

-- Абставіны складваюцца так, што хочам мы таго ці не, калі ў рэспубліках былога СССР пачнуць страляць (а недзе ўжо і пачалі!), людзі кінуць усё і пабягуць сюды, на радзіму, дзе пакуль што адносна спакойна. Па афіцыйных даных, за межамі рэспублікі зараз пражывае 2,5 мільёна беларусаў. Калі нават дзесятая частка гэтых людзей зараз апынецца на Беларусі, адбудзецца катастрофа, вы ж самі ведаеце наша сённяшняе эканамічнае становішча... А такая сітуацыя цалкам рэальная, паверце. Значыць, трэба загадзя падрыхтавацца, і ў гэтым, у першую чаргу, зацікаўлены мы самі, тыя, хто тут жыве.

-- **Што вы лічыце галоўным у рабоце свайго фонду?**

-- Галоўнае, канешне, стварэнне жыллёвых умоў і дадатковых працоўных месцаў. Гэта неверагодна цяжка, бо жылля ў рэспубліцы не хапае нават для тых, хто пражыў тут усё сваё жыццё, што тычыцца рабочых месцаў, беспрацоўе ўжо зараз -- сур'ёзная праблема, і ніякіх падстаў лічыць, што ў хуткім часе яна вырашыцца, няма. Але ж першае, што было зроблена, мы разаслалі лісты па абласных выканаўчых камітэтах з просьбай выдзеліць зямельныя ўчасткі пад жыллёвае будаўніцтва і паведаміць, прадстаўнікоў якіх прафесій яны змаглі б прыняць, спецыялісты якога профілю патрэбны ў тых ці іншых раёнах. Па-другое, нам хацелася б наладзіць сувязь з беларусамі за межамі дзяржавы, каб больш-менш дакладна ведаць колькасць людзей, умовы жыцця якіх даўно ўжо пераваліл за крытычныя, якія гатовы кінуць усё і бегчы з небяспечных раёнаў. Гэтыя лічбы дапамаглі б нам правільна зарыентавацца і хаця б прыкладна ведаць, пад якую колькасць людзей трэба разгортваць жыллёвае будаўніцтва і рыхтаваць рабочыя месцы. Тым больш, што гэта можна напрамую звязаць: людзі будуць самі будаваць для сябе дамы. У перспектыве стварэнне невялікіх мабільных прадпрыемстваў, якія маглі б выпускаць добрую, канкурэнтаздольную прадукцыю, якую можна было б экспартаваць. Дарэчы, у гэтай справе магла б дапамагчы беларуская дыяспара далёкага замежжа. Мы збіраемся браць заказы на вытворчасць камплектуючых, тэхналагічнага абсталявання і многага іншага. Захаду такое супрацоўніцтва будзе выгадным, бо сёння рабочая сіла тут намнога таннейшая, чым там. Канешне, нічога добрага ў гэтым няма, але пры цяперашнім сярэднім заробку (калі пералічыць "зайцаў" у долары, атрымаецца 20--25 "зялёных") магчымасць атрымліваць долараў 100 або і болей варта пакуль што выкарыстоўваць.

-- **Вы не баіцеся, што ў самым хуткім часе да вас хлыне паток пісьмаў з просьбамі прыняць, дапамагчы, выратаваць...**

-- Мы дапускаем такую магчымасць і таму пакуль што не даём ніякай рэкламы. Фонд зарэгістраваны 18 кастрычніка мінулага года, пакуль што ён знаходзіцца ў стадыі станаўлення, і сёння мы можам гаварыць толькі пра тое, што ён створаны, і расказаць аб напрамках, па якіх збіраемся арганізоўваць работу.

-- **Вашы адносіны да таго, што ў рэспубліцы дагэтуль няма міграцыйнага заканадаўства?**

-- Я лічу, што адсутнасць міграцыйнага заканадаўства -- гэта, канешне, нонсенс, але ў той жа час не хацеў бы перабольшваць яго ролі. Нашым парламентам ужо прынята шмат законаў, якія нікім не выконваюцца і існуюць толькі на паперы. І гэты закон прымуць, а хто яго будзе выконваць? Вось вам самы просты прыклад, які знайшоў шырокае адлюстраванне ў нашай прэсе: у адзін з калгасаў Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці ў парушэнне ўжо існуючага заканадаўства прыехала і пасялілася 200 таджыкаў. Не ведаю, чым і як яны расплачваліся са старшынёю гэтага калгаса, але ўсе адразу атрымалі і жыллё, і працу. Хто іх будзе адтуль высяляць? КДБ? Служба міграцыі? Але ў іх зусім іншыя функцыі. Міліцыя? Дай Бог, каб яна са сваімі праблемамі справілася. Ніхто не хоча браць на сябе дадатковыя клопаты. Трэба ў межах Міністэрства ўнутраных спраў ствараць спецыяльную міграцыйную паліцыю з дакладна акрэсленымі функцыямі, якая ўзяла б на сябе вырашэнне такіх пыт[illegible]яў. Я не хацеў бы абвастраць нацыян[illegible]ае пытанне, але не ўсё проста з та[illegible]ванымі "асобамі каўказскай нацыянальнасці". Да нас жа едуць не ўрачы, настаўнікі, інжынеры ці іншыя спецыялісты высокага класа. Прыязджаюць, як правіла, прадстаўнікі бізнесу, прычым, бізнесу крымінальнага. Сапраўдныя бізнесмены знаходзяць справу ў сябе дома, працую[illegible]эм для свайго народа, сваёй радзім[illegible] ў Беларусь рынуліся людзі за лёгк[illegible] нажывай. Да таго ж, у іх зусім іншы менталітэт. Ведаю выпадак з часу, які цяпер называюць "застойным", калі ў сілу нейкіх абставін галава азербайджанскага роду пераехаў з Ерэвана ў Гянджу. За ім зняліся з месца і пераехалі 450 чалавек гэтага роду -- усіх сацыяльных слаёў, прафесій, узростаў. Людзі кінулі працу, кватэры, сяброў і паехалі. І калі тут асталёўваецца і пускае карані адзін чалавек, праз нейкі час пачынаюць "падцягвацца" яго сваякі і родныя. Праз падстаўных асоб яны набываюць жыллё, і гэтыя, часта не лепшыя прадстаўнікі сваёй нацыянальнасці, трывала асядаюць на Беларусі.

Так, у нас пакуль што ціха, не чутна стрэлаў, але ёсць нейкая крытычная маса перасяленцаў, і калі яна збярэцца, несумненна адбудзецца сацыяльны выбух, вынікаў якога мы сёння нават уявіць сабе не можам. Між іншым, калі ў гэтых людзей ёсць грошы, каб набываць тут кватэры, чаму б, калі пачнецца прыватызацыя, не купіць ім магазін, рэстаран ці завод? З другога боку, ужо ні для кога не сакрэт, што тэрыторыю Рэспублікі Беларусь крымінальныя элементы скарыстоўваюць як плацдарм-накапляльнік для наступнай міграцыі ў Цэнтральную і Заходнюю Еўропу, а магчыма і далей. Адным з яркіх прыкладаў гэтай з'явы можа служыць сумна вядомы рэкет з усіх краін СНД на дарогах Польшчы і Германіі. Праблем шмат, міграцыйныя працэсы трэба тэрмінова браць пад кантроль. Было б вельмі добра, калі б нам у вырашэнні гэтых пытанняў дапамог Захад хаця б таму, што гэта ў яго інтарэсах. Калі нашы эмігранты пачнуць страляць на вуліцах іх гарадоў, яны зразумеюць, што лепш патраціць свае долары і маркі загадзя і тут, чым потым змагацца з нашай мафіяй на сваёй тэрыторыі. Тады яны хутка зразумеюць, адкуль трэба пачынаць наводзіць парадак. Што тычыцца нашага ўрада, то там яшчэ проста не адчулі ўсёй сур'ёзнасці праблемы. Зараз намаганні накіраваны на выратаванне эканомікі, а такія працэсы, як міграцыя, што адразу не кідаюцца ў вочы, лічацца другараднымі і быццам бы могуць пачакаць. Маўляў, вырашацца як-небудзь самі па сабе. Але праблема гэта вельмі сур'ёзная, і Беларусь можа стаць проста прахадным дваром, а не акном у Еўропу, як нам хацелася б.

**Гутарыла
Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## *ГРЫМАСЫ ЧАСУ*



**Набыццё за мяжой аўтамашын і перапродаж іх у Брэсце сталі адным з самых прыбытковых відаў "бізнесу" ў прыгранічным горадзе. Але якраз гарадскія ўлады гэтага і не прадбачылі. Маленькая пляцоўка былога аўтамагазіна не магла ўмясціць жадаючых прадаць нядаўна набытае аўто. І тады перад вокнамі жыхароў мікрараёна Усход узнік стыхійны рынак.**

**З усіх канцоў былога СССР прыязджаюць сюды пакупнікі. Гандаль ідзе да самага вечара: шум, гам, раз-пораз заводзяцца і равуць маторы, каля пад"ездаў жылых дамоў дэманструюцца хуткасныя магчымасці машын.**

**І так з дня ў дзень. Стаміліся людзі ад гару і куродыму спраўных і няспраўных аўто. І ўражанне такое, што ніхто з гарадскіх службаў не ўмешваецца ў справы гэтага нелегальнага кірмашу. Работнікаў правапарадку тут можна ўбачыць крайне рэдка.**

**НА ЗДЫМКУ: імправізаваны рынак па продажу аўтамабіляў у мікрараёне Усход.**

## МАЛАДАЯ ПЛЫНЬ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

# "АСВЕТА" СУПРАЦЬ КАМСАМОЛА

**НАДЗВЫЧАЙ цікавая з'[illegible] беларускага нацыянальнага руху 20-х гадоў нашага стагоддзя -- дзейнасць аб'яднанняў моладзі. Яны існавалі ў Вільні й Празе, Рызе й Коўне, Ленінградзе й Маскве, у многіх гарадох і мястэчка[illegible]ССР і ўсяе этнаграфічнае Белар[illegible] Арганізацыі розніліся праграмна і фармальна, але агульнай заставалася ідэя нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэння Беларусі.**

Аднак, нягледзячы на вялікую колькасць матэрыялаў і дакументаў, гэтая плынь амаль не даследавалася. Была, праўда, асобная дысцыпліна -- гісторыя камсамола, якая прэтэндавала на вывучэнне ўсіх рухаў моладзі, але з прычыны таго, што гурткі маладых беларусаў у 20-х гадах выступалі апанентамі камсамола, згаданая псеўданавука замоўчвала іх. Максімум інфармацыі пра колішнюю барацьбу ідэй дае Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: "Пры падтрымцы парт. арг-цый КСМБ да канца 1922 ідэйна разграміў нацыяналіст. маладзёжныя арг-цыі "Беларуская моладзь", "Югенд Бунд", яўкамол, "Макабі" і інш. Ідэйна збанкрутаваўшы і страціўшы падтрымку моладзі, яны вымушаны былі аб'явіць пра самаліквідацыю" (т. 6, с. 324).

Сёння прыходзіцца запознена ствараць гісторыю руху маладых беларусаў у 20-х гадах. Амаль не засталося ў жывых сведкаў ці ўдзельнікаў гэтага працэсу, таму асноўную інфармацыю даюць тагачасны перыядычны друк і архівы. З гэтых дзвюх крыніц нарадзіўся нарыс пра магілёўскую арганізацыю моладзі.

* * *

**УЗНІКНЕННЕ арганізацый беларускай моладзі на Магілёўшчыне было падрыхтавана газетай "Наша ніва" ды беларускай літаратурай, якая шырака пранікала ва ўсе куткі губерні. У 1912 годзе вучні Горы-Горацкіх сельскагаспадарчых школ стварылі гурток аматараў беларускай літаратуры, на аснове якога ў 1917 годзе паўстала нацыянальна-культурная арганізацыя -- Беларуская Секцыя вучняў Горы-Горацкай каморніцка-агранамічнай вучэльні.**

У Магілёве ў гэтым часе заргінізаваўся Беларускі Нацыянальны Камітэт, у склад якога ўваходзілі ўжо вядомыя дзеячы Міхал Кахановіч, Зміцер Даўгяла, Ісак Сербаў ды інш. БНК прапагандаваў ідэю беларускага адраджэння не толькі ў цэнтры губерні, але й у паветах. Хутка і маладыя прыхільнікі БНК заснавалі свае гурткі. Так, Нова-Быхаўскі гурток "інтэлігенцкай моладзі" з 5 чалавек атрымліваў ад БНК літаратуру, займаўся самаадукацыяй і прапагандаваў беларушчыну сярод сялянства. У сяле Усопкі гэткай дзейнасцю займаліся два маладыя шляхціцы Курыловіч і Паўлоўскі. Моладзь разам з БНК правяла ў Сяльцы-Халапееўскім ды Іскані сялянскі сход па выбарах дэлегатаў на Першы Усебеларускі кангрэс у Менск.

У 1918 годзе БНК стаў значнай палітычнай і грамадскай сілай у горадзе. Наогул, беларускі рух у першай палове года перажываў уздым. Народны сакратарыят БНР выдзяліў асігнаванні Магілёўскай гарадской радзе для арганізацыі беларускага школьніцтва. Асяродкамі беларушчыны сталіся гарадскія каталіцкія храмы. Незалежную БНР падтрымала магілёўскае губернскае земства, многія грамадскія і прафесійныя арганізацыі. Студэнты Магілёўскай настаўніцкай семінарыі ўтварылі Беларускі гурток. Ягоным старшынёй абраны быў ураджэнец вёскі Алешкавічы Бяльніцкае воласці, нядаўна дэмабілізаваны жаўнер Макар Выдрыцкі. Аднак дзейнасць гуртка ў гэтым часе не развілася. У канцы кастрычніка 1918 года горад захапіла Чырвоная Армія. Новая савецкая ўлада варожа ставілася да беларускага руху. Дзеячы Заходняй вобласці РСФСР, у склад якой уключылі Магілёўшчыну, са старонак газет ганілі беларускую мову ды ідэю дзяржаўнасці і нават адмаўлялі сам факт існавання беларускай нацыі. Напісаная збольшага на магілёўскім матэрыяле аповесць Максіма Гарэцкага "Дзве душы" гэтаксама сведчыць пра антыбеларускую кампанію, пераслед з боку органаў ЧК і арышты беларускіх дзеячаў у Заходняй вобласці. Зрэшты, ваенныя дзеянні, пераход горада ад адной акупацыйнай улады да іншай аб'ектыўна не маглі спрыяць працы гуртка.

Для ўяўлення атмасферы тагачаснага Магілёва варта дадаць, што рэй сярод моладзі вялі тут выключна габрэйскія арганізацыі: "Цэірэй Цыён", гурток юных сацыялістаў ды іншыя. Габрэі складалі тады каля 45 працэнтаў насельніцтва горада. Юнакі з заможных сем'яў манархічных настрояў гуртаваліся ў спартовых атрадах "Бой-скаўт".

(Заканчэнне на 4-й стар.).

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

# "АСВЕТА" СУПРАЦЬ КАМСАМОЛА

Асобна гуртаваліся студэнты і навучэнцы, гімназісты. Пралетарскі маладняк тым часам пасіўна сузіраў жыццё. Губернскі камітэт РКП(б) не мог задаволіцца гэткім станам рэчаў і ў лістападзе 1918 года стварыў ініцыятыўную групу па арганізацыі камуністычнага саюза моладзі. Аднак пры адсутнасці ініцыятывы тыя самыя "Цэірэй Цыён", юныя сацыялісты ды іншыя, пераважна габрэйскія гурткі левасацыялістычнай арыентацыі, узяліся ажыццявіць ідэю. У тым жа месяцы яны заснавалі саюз моладзі "III Інтэрнацыянал", які неўзабаве пераназваўся ў Магілёўскую арганізацыю Расейскага Камуністычнага Саюза Моладзі (РКСМ). Атрымаўшы ўсялякую дапамогу і падтрымку савецкай улады, арганізацыя, аднак, ледзь нарадзіўшыся, развалілася. "Кто пошел в мир спекуляции, кто в советские учреждения" -- гэткім было афіцыйнае тлумачэнне развалу.

**З 1919 ГОДА гурток маладых беларусаў з настаўніцкай семінарыі пачаў працаваць больш рэгулярна. Магчыма, нейкім імпульсам было абвяшчэнне 1 студзеня Беларускай савецкай рэспублікі, аднак менш чым праз месяц ЦК РКП(б) пастанавіў вылучыць губерню з складу БССР. Працэдура вылучэння суправаджалася антыбеларускай кампаніяй. Прыкладам, у органе губкаму партыі газеце "Соха и молот" 8 лютага 1919 года пісалася: "В наших школах, учреждениях, на собраниях пишут и говорят на обыкновенном русском языке. И только шарлатаны из числа Минской буржуазной Рады с помощью чужеземных штыков смогли навязать нам тот дикий белорусский язык, который для белорусского народа умер многие сотни лет назад".**

Але гурток працягваў сваю працу. Юнакі абралі самую дзейсную на той час форму грамадскай работы -- тэатральныя прадстаўленні. Праз іх гуртkоўцы дэманстравалі самастойную беларускую мастацкую культуру, абуджалі нацыянальнае пачуццё гледачоў. Трупай з 20 чалавек кіраваў сам М. Выдрыцкі. Юнакі інсцэніравалі беларускае вяселле і дэбютавалі з інсцэніроўкай на сцэне магілёўскага гарадскога тэатра і ў залі Дома працы (б. Дом Паўлавіцкага). У гэтым самым часе сябры Беларускай Секцыі пры Горы-Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце з поспехам пачалі выступаць з беларускімі п'есамі па навакольных вёсках. У Дрыбіне, Сарцыславе, Малышэвічах і Малой Багацькаўцы секцыя заснавала беларускія драматычныя гурткі.

Апрача тэатральных паказаў, юнакі з Магілёва шмат ездзілі па вёсках павета, гутарылі з сялянамі пра Беларусь, вучылі іх правільна чытаць беларускія кніжкі і газеты, самі чыталі ім творы беларускіх пісьменнікаў, паводле выразу М. Выдрыцкага, "агітавалі за беларушчыну". Выпала гуртку й сутыкнуцца з перашкодамі й супрацьдзеяннем рознага кшталту ворагаў беларушчыны і русіфікатараў. Пра гурток пускаліся беспадстаўныя плёткі, прыкладам, называлі яго "польскай інтрыгай". У 1919 годзе маладыя беларусы назвалі свой гурток "Асвета". Назва характарызавала сутнасць працы -- абуджэнне нацыянальнай свядомасці свайго народа праз асвету, веды.

Летам 1920 года адбылося замірэнне на польска-савецкім фронце. Другі раз была абвешчана БССР, але Магілёўшчына ізноў засталася ў РСФСР. За Магілёвам быў замацаваны статус павятовага цэнтра Гомельскай губерні РСФСР.

Перыяд з 1920 да 1922 года для "Асветы" вызначыўся актывізацыяй тэатральнай дзейнасці. Да гуртка далучыліся ўжо дасведчаны беларускі дзеяч Алесь Ляжневіч і Міхась Зарэцкі, будучы вядомы пісьменнік. "Асвета" атрымала для рэпетыцый памяшканне ў Доме селяніна. У гарадскім тэатры і клубах, у вёсках драматычная трупа ставіць новыя спектаклі, платныя і бясплатныя. Рэпертуар складаецца з п'ес вядомых тагачасных драматургаў Уладзіслава Галубка "Апошняе спатканне", "Ганка", "За мураванай сцяной"; Францішка Аляхновіча "Чорт і баба", "Манька", "Птушка шчасця"; "Паўлінка" Янкі Купалы; "Збянтэжаны Саўка" Леапольда Родзевіча; "Модны шляхцюк" Каруся Каганца, інш. Пад кіраўніцтвам вядомага ў горадзе рэгента П.М. Грайкі з сяброў гуртка быў арганізаваны хор з 80 чалавек, які пачаў выступаць на гарадскіх сцэнах і культурных пляцоўках.

У Магілёўскім ды блізкіх паветах узніклі філіі "Асветы". Усталяваліся сувязі магілёўцаў з аднадумцамі з Горы-Горак і з Беларускай культурна-навуковай асацыяцыяй студэнтаў Пятроўскай (сёння Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі. Наладзіўся кантакт з Беларускім Цэнтральным Бюро пры Наркамаце асветы РСФСР у Маскве, якое курыравала беларускае школьніцтва і культурна-асветную працу сярод беларусаў на тэрыторыі РСФСР, а таксама і з НКА БССР. Цяпер па лініі гэтых наркаматаў магілёўскія беларусы маглі атрымліваць невялікія сумы грошай і літаратуру, юрыдычную падтрымку. Тым часам мясцовыя партыйныя і савецкія органы Гомельшчыны, Віцебшчыны і Смаленшчыны перашкаджалі пашырэнню беларускай культуры і школьніцтва, часам адмаўлялі навуковы факт існавання беларускага этнасу. Гэтую паставу аспрэчвалі ў розных палітычных і ідэалагічных інстанцыях Масквы дзяржаўныя органы Савецкай Беларусі.

**У 1920--1922 гадах у БССР і на этнічным беларускім Усходзе дзейнічала каля 26 арганізацый беларускай моладзі. Яны не падпарадкоўваліся камсамолу і партыі, мелі выразна нацыянальны кірунак дзейнасці, стараліся выпрацаваць агульную ідэалагічную платформу і каардынаваць свае намаганні. Партыя, камсамол і органы савецкай улады ўсяляк перашкаджалі маладой беларускай плыні. Асабліва цяжкія ўмовы для працы арганізацый гэткага кірунку былі створаны ўладамі на тэрыторыі БССР. Тым часам на тэрыторыі РСФСР улады ставіліся да руху маладых беларусаў хоць і варожа, але не наступальна.**

Неспрыяльным для "Асветы" стаў 1921 год. Аддзел прапаганды і агітацыі Магілёўскага павятова-гарадскога камітэта РКП(б) за выступы трупы і хору "Асветы" запатрабаваў вялікі грашовы падатак, адначасова вызваліўшы ад яго расейскія трупы. На пачатку 1922 года гурток пазбавілі памяшкання ў Доме селяніна. Хор і трупа ўрэшце перасталі існаваць. Наогул, у другой палове 1922 года ўціск беларускага руху на Усходзе яшчэ болей узмацнеў. Што канкрэтна да Магілёва, дык гэта была, праўдападобна, рэакцыя ўлады на актывізацыю беларускага гуртка. Апрача тэатральнай дзейнасці, арганізацыя ў гэтым часе пачала агітаваць сялян патрабаваць адчынення беларускіх школ, выступіла ініцыятарам стварэння Беларускай секцыі пры Магілёўскім АНА. Не маючы магчымасці выступаць у савецкім друку, гурток супрацоўнічаў з газетамі і часопісамі Заходняй Беларусі. Гуртkоўцы гэтаксама прапагандавалі ідэю далучэння Магілёўшчыны да БССР.

Уціск, аднак, паставіў перад гуртком пытанне аб далейшым існаванні. Шырокая грамадская праца была ўжо амаль немагчымая. У гэтым часе большасць гуртkоўцаў ужо вучылася ў Магілёўскім педагагічным інстытуце народнай адукацыі. Некаторыя далучыліся да гуртка ўжо будучы студэнтамі. Менавіта інстытут абралі гуртkоўцы галоўнай пляцоўкай свае дзейнасці. Яны рэарганізавалі гурток у Беларускую асацыяцыю студэнтаў МПІНА "Асвета", галоўнай задачай якой станавілася "ўсебаковае вывучэнне Магілёўскага краю". Пры асацыяцыі стварылі адмысловыя секцыі -- драматычную, літаратурную, гісторыка-этнаграфічную.

Узначаліў асацыяцыю ізноў М.Выдрыцкі. Сакратаром быў абраны Янка Багроў. Абодва яны вучыліся на фізіка-матэматычным аддзяленні МПІНА. Актывістамі былі студэнты Пётр Акулаў, У.Парашкоў, Валянцін Чудовіч ды інш. Усяго ў асацыяцыю ўваходзіла каля 80 студэнтаў, яшчэ шырэйшым было кола прыхільнікаў. Так, з ёю супрацоўнічалі й дапамагалі вядомы навуковец і выкладчык МПІНА Зміцер Даўгяла, філолаг Іван Самковіч, загадчык адчыненай БС АНА Сымон Жураўскі ды іншыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Паралельна з асацыяцыяй у горадзе існавалі й іншыя групоўкі нацыянальна-сведамай беларускай моладзі, хоць рэй вяла першая.

**КАМСАМОЛ па-ранейшаму заставаўся ідэйна неўплывовым і колькасна нешматлікім, маючы, аднак, сталае фінансаванне ды ўсялякую пратэкцыю ўлады. У 1919--1922 гадах камсамол пры дапамозе партыі знішчыў у Магілёве скаўцкія атрады і згуртаванні беспартыйнага студэнцтва. Цяпер жа ён стараўся ідэйна і арганізацыйна падпарадкаваць сабе альбо разваліць існуючыя гурткі габрэйскай моладзі. Дарэчы, апошнія мелі значны ўплыў на моладзь -- у іх былі сотні сяброў, калі камсамол у Магілёве не меў і 100 прыхільнікаў.**

Беларуская арганізацыя не ангажавалася ў ідэйную барацьбу і ў спрэчкі паміж камсамолам і габрэйскімі аб'яднаннямі, але нават колькасна яна была значным гуртаваннем моладзі. Ячэйка РКСМ у МПІНА ў гэтым часе, для прыкладу, налічвала 2(!) чалавекі.

Але РКСМ быў галоўнай пагрозай для існавання беларускай асацыяцыі. Менавіта камсамол напрыканцы 1922 года вымусіў зліквідавацца менскі гурток "Беларуская моладзь" і ягоны клуб "Беларуская хатка", асацыяцыю студэнтаў Пятроўскай акадэміі ды іншыя. Магілёўская беларуская асацыяцыя старалася ўнікнуць канфрантацыі, а таму ўсё часцей мусіла дэклараваць адданасць камуністычнай ідэалогіі.

На пачатку 1923 года асацыяцыя зарэгістравалася ў павятовым і гомельскім губернскім выканкамах. Праца яе фактычна абмежавалася рамкамі МПІНА. З.Даўгяла чытаў сябрам "Асветы" лекцыі па беларусазнаўству, працавалі секцыі, папулярнасцю сярод студэнтаў інстытута карысталіся беларускія п'есы "Асветы" ў клубе МПІНА, часта ладзіла асацыяцыя дыспуты і даклады па розных аспектах беларускай культуры. "Асвета" часцяком выязджала на агляды помнікаў архітэктуры, галоўным чынам, храмаў у Оршу, Чавусы, Круглае, Бялынічы, Княжыцы ды іншыя мясціны. Адзіная на той час магілёўская гарадская газета "Соха и молот" ігнаравала "Асвету", таму апошняя выступала на старонках віленскай газеты "Новае жыццё", ковенскага часопіса "Крывіч", у іншых выданнях Заходняй Беларусі. Разумеючы патрэбу ўласнай грамадскай трыбуны, увесну 1923 года асацыяцыя пачала падрыхтоўку беларускага часопіса. Дарэчы, якраз у гэтым часе выйшаў падрыхтаваны горы-горацкай Беларускай секцыяй часопіс "Беларускі гаспадар".

Аднак увесну 1923 года Наркамат асветы РСФСР пастанавіў зліць МПІНА з Беларускім дзяржаўным універсітэтам. Матэрыяльная база, выкладчыкі і студэнты МПІНА рыхтаваліся да пераезду ў Менск. Асацыяцыя прыняла рашэнне аб самаліквідацыі. Кіраўніцтва асацыяцыі дапамагло сябрам аформіць неабходныя для пераводу ў БДзУ дакументы. Беларускі маладзёжны рух у горадзе і ў краі не спыніўся. Існавалі гурткі пры Магілёўскім педагагічным тэхнікуме, пры землянробскіх курсах у Круглым, актыўна працавала горы-горацкая Беларуская секцыя, паўсталі гурткі ў Княжыцах, Грэбянёве, Чэрнеўцы ды іншых вёсках.

**У 1924 годзе спраўдзілася мара магілёўскіх гуртkоўцаў -- уз'яднанне з БССР адбылося. Яшчэ праз некалькі год былыя сябры "Асветы" атрымалі дыпломы спецыялістаў. Яны працавалі ў Магілёве ды іншых мясцінах БССР, актыўна ажыццяўлялі палітыку беларусізацыі.**

Вядомымі ў рэспубліцы дзеячамі культуры і навукі сталі Зміцер Даўгяла, Іван Самковіч, Алесь Ляжневіч, Міхась Зарэцкі, Сымон Жураўскі, Валянцін Чудовіч. Біяграфіі іншых пакуль невядомыя, але не выключана, што й камусьці яшчэ з вядомых людзей кірунак жыцця быў зададзены "Асветай". Эпоха гэтага пакалення, аднак, аказалася трагічная. Большасць з прыналежных да гуртка-асацыяцыі людзей былі рэпрэсаваныя. Злыбяды падбілі парасткі адраджэння на беларускай ніве, якую ўзаралі й магілёўскія юнакі.

Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.

## 50 ГОД ПАСЛЯ ТОЙ ВАЙНЫ



**Падмінаючы пад сябе налітыя зернем каласы жыта, урываецца ў наш дом фашысцкі танк -- гэта фрагмент новай экспазіцыі, якую рыхтуюць супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Яна раскажа аб самым пачатку гераічнай і шматпакутнай эпапеі.**

**У канцы 1993 года музей адзначыў 50 год з дня заснавання. За гэты час у ім пабывалі мільёны наведвальнікаў. Праведзена вялікая работа па збору дакументаў, рэліквій, сведчанняў відавочцаў тых незабыўных дзён.**

**І сёння ў музей паступае нямала цікавых экспанатаў. Узноўленыя клапатлівымі рукамі мастака-рэстаўратара Уладзіміра Маслыка, яны нагадваюць нам пра вайну, якая ўжо стала гісторыяй, але якую помніць наш народ.**

**НА ЗДЫМКАХ: загадчык ваенна-франтавога аддзела музея Іван ХРАПАЎ і старшы навуковы супрацоўнік аддзела Галіна БАБУСЕНКА рыхтуюць новую экспазіцыю "Пачатак вайны"; унікальны экспанат -- біклага з уціснутай у яе чалавечай косцю -- знойдзены ў раёне вёскі Азярніца Гродзенскай вобласці.**



# ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

## КАНФЕРЭНЦЫІ 1994 ГОДА

На чарговым пасяджэнні бюро Міжнароднага камітэта беларусістаў разгледзела пытанне аб правядзенні міжнародных навуковых канферэнцый у 1994 годзе.

Найбольш прадстаўнічымі мяркуецца зрабіць канферэнцыі "Беларуска-амерыканскія гісторыка-культурныя ўзаемаадносіны: традыцыі і сучаснасць" (кастрычнік) і "Яўрэйская культура Беларусі і яе ўздзеянне на іншыя культуры" (канец мая -- пачатак чэрвеня). У час першай з іх плануецца пасяджэнне Міжнароднага камітэта беларусістаў. Цяпер ідуць пошукі дабрадзеяў, якія аплацілі б праезд навукоўцаў з "блізкага замежжа", а таксама выданне матэрыялаў. Пасланы адпаведныя лісты ў некалькі зарубежных фондаў.

Сумесна з Віцебскім краязнаўчым музеем летам будзе наладжана канферэнцыя "Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеянне канца XIX -- пачатку XX ст.". Прысвячаецца яна 150-годдзю з дня нараджэння і 100-годдзю знаходжання на Віцебшчыне Ільі Рэпіна і пройдзе ў Віцебску, а таксама ў Здраўневе пад Віцебскам, дзе жыў і тварыў выдатны рускі мастак. У верасні ў Мінску плануецца правесці сустрэчу беларускіх і балгарскіх навукоўцаў, пісьменнікаў, эканамістаў. Тэма яе -- "Беларуска-балгарскія сувязі (мова, літаратура, гісторыя, эканоміка)".

Урэшце, у лістападзе 1994 года, мяркуецца на Віцебшчыне правесці канферэнцыю "Беларусь першай паловы XIX ст. і Ян Баршчэўскі". Нагодай для яе стане двухсотгоддзе з дня нараджэння пісьменніка.

Сябры Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў будуць таксама прымаць удзел і дапамагаць арганізацыйна ў міжнародных навуковых канферэнцыях "Культура беларускага замежжа" (ладзіць "Бацькаўшчына"), "Беларуруская навуковая тэрміналогія" (4--6 мая, Мінск, ладзіць аргкамітэт), да 110-годдзя з дня нараджэння Антона Луцкевіча (пачатак лютага, Гродна, ладзіць Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада) і 200-годдзя з пачатку паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі (сярэдзіна красавіка, Мінск -- з выездам на месцы падзей, ладзіць аргкамітэт).

Да сказанага трэба дадаць, што папярэднія заяўкі на ўдзел у канферэнцыях можна прысылаць на новы адрас МАБ: Беларусь, 220050, Мінск-50, вул. Рэвалюцыйная (Койданаўская), 15. Пасля атрымання заявак будуць высланы запрашэнні.

## "ТАЛЕРАНЦЫЯ ЯК СВЕДЧАННЕ ДЭМАКРАТЫІ"

Міжнародны сімпозіум пад такой назвай адбыўся ў снежні 1993 года ў Залессі пад Варшавай. У ім удзельнічалі вучоныя, пісьменнікі, грамадскія і рэлігійныя дзеячы Беларусі, Венгрыі, Германіі, Літвы, Польшчы, Славакіі і Харватыі (беларусаў прадстаўлялі прэзідэнт МАБ Адам Мальдзіс і дэпутат польскага сейма Яўген Чыквін).

Удзельнікі сімпозіума прынялі заяву-зварот, у якой выказалі занепакоенасць з прычыны ўзрастання ў Еўропе "хвалі шавінізму, нацыяналізму і антысемітызму". Асаблівую трывогу выклікаюць падзеі ў былой Югаславіі, Закаўказзі і Паўночнай Ірландыі. У заяве, у прыватнасці, гаворыцца: "У імя сапраўды гуманістычных вартасцей, заснаваных на любві да бліжняга і біблейскім наказе "не забівай!", мы арганізуем Міжнародны камітэт людзей добрай волі, якія імкнуцца прысвяціць сябе ідэі распаўсюджання прынцыпаў талерантнасці, гуманізму і ўзаемапаразумення сярод жыхароў усёй Еўропы. Па меры нашых сіл і сродкаў мы будзем праводзіць канкрэтныя акцыі, што служаць пашырэнню талерантнага стаўлення, асабліва сярод моладзі нашых краін".

## ПАДАРУНАК З ГДАНЬСКА

На імя Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, для выставы "Беларусы ў сьвеце", якая там існуе, прыйшла важкая бандэроль з Гданьска ад Эдмунда Стаповіча. Пляменнік двух выдатных дзеячаў беларускага народа — паэта Казіміра Сваяка і кампазітара, пісьменніка, пасла на сойм у даваеннай Польшчы Альбіна Стаповіча, ён парупіўся, каб у Беларусі, на іх радзіме, быў (няхай і ў ксеракопіях) поўны камплект іх твораў.

У бандэролі аказаліся унікальныя здымкі: бацькі Казіміра Сваяка і Альбіна Стаповіча, Казімір Сваяк з братамі (1923), Казімір Сваяк у духоўнай семінарыі. Спадчына Альбіна Стаповіча, чыё стагоддзе з дня нараджэння будзе адзначацца ў 1994 годзе, прадстаўлена нотамі яго песні "Дзе чутны мовы нашай гукі", укладзеным ім спеўнікам, песнямі, запісанымі ад маці і аднавяскоўцаў, перапіскай з братам (вялася яна, зразумела, на беларускай мове), шматлікімі артыкуламі, змешчанымі ў віленскім даваенным друку. Упарадкавала ўсе матэрыялы і напісала пра іх артыкул сябра МАБ Галена Глагоўская (Гданьскі універсітэт).

Прысланыя матэрыялы зоймуць месца на выставе "Беларусы ў сьвеце", а таксама ў музеі, які арганізуецца Астравецкім раённым аддзелам культуры і Беларускай каталіцкай грамадой у вёсцы Барані -- у драўлянай хаце Стаповічаў, якая цудам захавалася дзякуючы клопатам вяскоўцаў.

## ПРАЦА АЎСТРЫЙСКАГА БЕЛАРУСІСТА

У другім нумары за 1993 год чэшскага часопіса "Опера Славіка", які выдаецца вышэйшай педагагічнай школай у Градцы Кралёвым, з'явіўся вялікі артыкул "Моўная сітуацыя ў Баларусі" (на рускай мове). Яго аўтар -- прафесар Зальцбургскага універсітэта (Аўстрыя) сябра Міжнароднага камітэта беларусістаў Герман Бідэр.

Пра змест працы аўстрыйскага беларусіста сведчаць назвы яе раздзелаў: "Грамадскія функцыі беларускай і рускай моў у Беларусі", "Інтэрферэнцыя беларускай і рускай моў", "Прычыны ўзнікнення культурнага адраджэння Беларусі", "Моўнае будаўніцтва і моўная палітыка ў Беларусі на працягу XX стагоддзя", "Беларуская мова адраджэння". У "Заключэнні" гаворыцца, што ў сённяшняй "вельмі цяжкай сітуацыі беларускай інтэлігенцыі вельмі патрэбна духоўная і матэрыяльная падтрымка з боку інтэлігенцыі іншых славянскіх і неславянскіх краін, таму што толькі паспяховае правядзенне намечанай праграмы моўнага і культурнага адраджэння забяспечыць будучыню беларускай мовы і, такім чынам, далейшае існаванне беларускага народа ў якасці самастойнага этнасу".

## ГАНАРОВЫ ГРАМАДЗЯНІН

З Германіі прыйшла вестка, што адзін з пачынальнікаў амерыканскай астранаўтыкі сябра МАБ прафесар Барыс Кіт стаў ганаровым грамадзянінам горада Ляймена. У гэтым горадзе наш суайчыннік выступіў (побач з нябожчыкам Юрыем Попкам) арганізатарам Беларускага музея, а [illegible]ма навукова-літаратурнага штогодніка.

## БЕЛАРУСКА-НЯМЕЦКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

Напярэдадні Новага года ў Мінску адбылася Устаноўчая канферэнцыя Беларуска-нямецкай асацыяцыі культурна-асветных ініцыятыў, заснавальнікам якой, побач з іншымі арганізацыямі, выступіла МАБ. Створана яна, як гаворыцца ў прынятым статуце, "дзеля актыўнага культурнага супрацоўніцтва, шырокага абмену духоўнымі каштоўнасцямі, паглыблення і гуманізацыі грамадскіх адносін, актыўнай дапамогі працэсу збліжэння паміж абодвума народамі".

Прэзідэнтам асацыяцыі выбраны старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны літаратуразнавец Уладзімір Сакалоўскі. Там жа (вул. Рэвалюцыйная, 15) знаходзіцца яе сядзіба.

**Алеся БЕЛАВУСАВА,**
**рэферэнт Міжнароднй асацыяцыі беларусістаў.**

# САПЁРЫ АДКРЫВАЮЦЬ НАВАГОДНІ РАХУНАК

Снарад, што ляжаў з мінулай вайны, жыхары вёскі Нікуліна, што ў Горацкім раёне Магілёўшчыны, выявілі напярэдадні навагодняга свята. Вось так і выйшла, што ім адкрылі рахунак абясшкоджаным узрыванебяспечным прадметам у 1994 сапёры беларускай арміі.

Небяспечнай работы ў іх, мяркуючы па выніках года мінулага, хопіць яшчэ вельмі надоўга. Летась, калі ўрад Беларусі прыняў пастанову аб суцэльным размініраванні раёнаў рэспублікі, дзе ў гады Вялікай Айчыннай ішлі самыя напружаныя баі, нагрузкі ў сапёраў рэзка ўзраслі. Фактычна на іх лёг цяжар работы, да якой так і не дайшлі рукі ў магутнага Міністэрства абароны былога СССР.

У выніку за мінулы год салдаты і афіцэры сапёрных і піратэхнічных спецпадраздзяленняў інжынерных войск абясшкодзілі амаль 59 тысяч бомб, снарадаў, мін, гранат і іншых начыненых старой узрыўчаткай "сюрпрызаў". Львіную долю ў гэтым смяротным пераліку -- больш за 50 000 -- займаюць узрыванебяспечныя прадметы, знойдзеныя і знішчаныя ў Дубровенскім раёне на Віцебшчыне. Менавіта адсюль пачалася цяжкая аперацыя па суцэльнаму размініраванню тэрыторыі рэспублікі. Каб лягчэй было ўявіць яе маштабы, нагадаем, што не так даўно на ўсёй тэрыторыі Беларусі за год знаходзілі і знішчалі на палігонах у сярэднім 20 000 боепрыпасаў мінулых войнаў. Так што дасягнуты ў мінулым 1993 годзе "чэмпіёнскі" вынік яўна прэтэндуе на месца ў Кнізе рэкордаў Гінеса.

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў штабе інжынерных войск МА, у бягучым годзе работы па суцэльнаму размініраванню, нягледзячы на цяжкасці, якія перажывае рэспубліка, будуць працягнуты. Скарэй за ўсё яны адновяцца ўсё ў тым жа Дубровенскім раёне, дзе сапёры цвёрда вырашылі раз і назаўсёды расправіцца з надакучыўшым усім і праклятым людзьмі "рэхам вайны". Пры гэтым ваенныя вельмі спадзяюцца на дапамогу ўрада, якую яны атрымалі ў мінулым годзе і без якой ім не абысціся сёлета.

## 1994 — ГОД ПАМЯЦІ АХВЯР ВАЙНЫ І ГЕНАЦЫДУ

# ЗВАРОТ

## ДА ГРАМАДЗЯН, ВЯРХОЎНАГА САВЕТА, УРАДА, ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ БЕЛАРУСІ

У бягучым стагоддзі Беларусь перажыла часы адраджэння, дзяржаўнага, нацыянальна-культурнага, дэмакратычнага, і часы трагедыі, якая прывяла Бацькаўшчыну да мяжы разбурэння, мяжы нацыянальнай катастрофы. Адным з самых драматычных перыядаў жыцця краіны стаў перыяд другой сусветнай вайны і час, які непасрэдна папярэднічаў і ішоў за ёю: ад 1930--1939 гадоў і ў пасляваенны перыяд, калі краіна ўслед за рэпрэсіямі і за фашысцкай акупацыяй, за Курапатамі і Трасцянцом перажыла заняпад нацыянальнай мовы і культуры і аказалася на мяжы разбурэння грамадзянскай супольнасці Беларусі.

У 1941--1944 гадах у г. Мінску і яго ваколіцах быў створаны і дзейнічаў буйнейшы ў свеце д'ябальскі механізм фізічнага знішчэння і маральнага падаўлення людзей. У турме па вул. Валадарскага, турме СД па вул. Астроўскага, Мінскім гета, лагерах па вул. Даўмана, Шырокай, у пасёлках Дразды, Масюкоўшчына, у месцах масавых смяротных пакаранняў ва Уруччы, Навінках, на Кальварыі, каля в. Глінішча, ва ўрочышчах Благаўшчына і Шашкаўка і ў лагеры смерці каля вёскі Малы Трасцянец знішчаны многія сотні тысяч грамадзян Беларусі, былога СССР, а таксама шэрагу краін Еўропы. Аднак, на жаль, многія старонкі гісторыі да гэтага часу не высветлены.

Менш за ўсё вядома пра існаванне і дзейнасць у 1942--1944 гадах лагера смерці "Трасцянец", у якім загінула, па розных звестках, ад 206 до 546 тысяч чалавек. У ваколіцах вёскі М. Трасцянец, ва ўрочышчах паабапал Магілёўскай шашы, дзе да самага апошняга часу размяшчаўся палігон, стрэлы грымелі па начах, пачынаючы з пачатку 30-х гадоў. Толькі ва ўрочышчы Благаўшчына, побач з якім знаходзіцца гарадская звалка пасляваенных гадоў, пахаваны ў 34 рвах каля 150 тысяч ахвяр вайны. На гэтым месцы няма каля дарогі спецыяльнага паказальніка, няма і мемарыяльнага знака на месцы трагедыі.

Па невядомых прычынах звесткі пра дзейнаць буйнейшага ў свеце лагера смерці "Трасцянец" не трапілі на стол міжнародных следчых арганізацый, што рыхтавалі Нюрнбергскі працэс, на якім быў асуджаны фашызм. Больш таго, да гэтага часу не выпушчана ў свет ніводнай кнігі, не знята ніводнага фільма,не абвешчана пра стварэнне Нацыянальнай гісторыка-ахоўнай зоны на тэрыторыі былога лагера смерці. Няма і Кнігі памяці ахвяр вайны, ахвяр лагера смерці. Дакументы і матэрыялы, якія маглі б прыадкрыць таямніцу лагера смерці, не вывучаны і раскіданы па сховішчах і зборах многіх краін Еўропы.

У гэты[illegible] абставінах па ініцыятыве грамадскасці, пры ўдзеле гісторы[illegible]орыстаў, прадстаўнікоў органаў дзяржаўнай улады і кірав[illegible], ветэранаў вайны, прадстаўнікоў многіх зацікаўленых арганізацый і ўстаноў у Мінску створаны гісторыка-мемарыяльны фонд "Трасцянец". Фонд пачаў дзейнічаць напярэдадні 50-годдзя вызвалення краіны і перамогі ў другой сусветнай вайне і будзе ўдзячны грамадзянам, службовым асобам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый за дапамогу па[illegible]ру матэрыялаў і дакументаў, звязаных са смертаноснай [illegible]насцю лагера Трасцянец, і за іншыя факты садзеяння яго працы па выпуску ў свет друкаваных матэрыялаў, кіна- і фотадакументаў, арганізацыі і вядзенні асветніцкай працы сярод насельніцтва Беларусі. Фонд звяртаецца да грамадзян, якія сталі ахвярамі вайны і таталітарызму, іх родзічаў, блізкіх, сведкаў азначаных вышэй падзей з прапановай прадаставіць у яго распараджэнне дакументы, успаміны і матэрыялы адпаведнага характару.

Ва ўмовах, калі краіна аказалася ў стане абвальнага палітычнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу гісторыка-мемарыяльны фонд "Трасцянец" звяртаецца да грамадзян, Вярхоўнага Савета і ўрада, іншых грамадскіх арганізацый Беларусі падтрымаць ініцыятыву аб абвяшчэнні 1994 года годам памяці ахвяр вайны і генацыду, ачышчэння ад насілля і жорсткасці, годам грамадзянскага прымірэння і згоды ў краіне дзеля будучыні Бацькаўшчыны, станаўлення дэмакратычнай, незалежнай, нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавы як гаранта выжывання народа, развіцця грамадства і росквіту асобы.

**Яўген ЦУМАРАЎ, народны дэпутат Беларусі, старшыня гісторыка-мемарыяльнага фонду "Трасцянец".**

**Мікалай ЕМЯЛЬЯНАЎ, навуковы кіраўнік праекта зон аховы помніка гісторыі рэспубліканскага значэння былога лагера смерці "Трасцянец", сябра фонду.**

**Лявон ДЗЕЙКА, народны дэпутат Беларусі, сябра фонду.**

**Сяргей ЛЕЎШУНОЎ, кандыдат юрыдычных навук, сябра фонду.**

**Раіса ЧАРНАГЛАЗАВА, загадчык партызанскага сектара Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, сябра фонду.**

**Віталь СКАЛАБАН, гісторык, сябра фонду.**

**С.У. ВЕЧАР, галоўны спецыяліст Упраўлення культуры Мінаблвыканкама, сябра фонду.**

**Анатоль ГУРЫНОВІЧ, намеснік старшыні Мінгарсавета, сябра фонду.**

**Яўген НОВІКАЎ, народны дэпутат Беларусі.**

**Віктар АЛАМПІЕЎ, народны дэпутат Беларусі.**

**Ала ВАНЬКЕВІЧ, вучоны сакратар Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, намеснік старшыні фонду.**

**Уладзімір КОЛАС, кінарэжысёр, дырэктар БГАКЦ, сябра фонду.**

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ, загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, сябра фонду.**

**Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат Беларусі, старшыня БСДГ.**

**Алесь ЧАРНЯЎЧЫК, выкладчык, сябра фонду.**

**Тамара ФАМЕНКА, навуковы супрацоўнік РЦЭВД, сябра фонду.**

**Анатоль СІДАРЭВІЧ, гісторык, публіцыст.**

**Таццяна ПАЛЯКОВА, кіраўнік прэс-цэнтра БСДГ, сябра фонду.**

**Мікола КІЙКА, эканаміст, сябра фонду.**

**Міхаіл ЖУКОЎСКІ, народны дэпутат Беларусі, старшыня Камісіі ВС па справах ветэранаў і інвалідаў.**

**Мікалай ЖУРАЎЛЁЎ, народны дэпутат Беларусі, намеснік старшыні Камісіі ВС па справах ветэранаў і інвалідаў.**

**Аляксандр Аляксандравіч БАГДАНОВІЧ-САПЕГА, Вялікі Князь таварыства "Вялікае Княства Беларускае, Літоўскае, Смаленскае, Валынскае і Кіеўскае".**

**Мікола СТАТКЕВІЧ, старшыня БЗВ.**

*ДА 125-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯДВІГІНА Ш.*

# САЛОДКІ ДЫМ АЙЧЫНЫ...

ТАТАЛІТАРНЫ рэжым, які панаваў на нашай зямлі больш за 70 гадоў, вынішчаў нацыянальную беларускую інтэлігенцыю, разбураў яе гнёзды, абжытыя сядзібы. Вынішчалі і нашчадкаў — дзяцей, унукаў, пазбаўлялі іх радзімы, сям'і, роднага кута, каб баяліся ўспамінаць нават імёны бацькоў, а тым самым парывалі повязь з беларушчынай. Нядзіўна, што сёння на Беларусі ніхто не жыве са сваякоў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Аляксандра Уласава, Вацлава Ластоўскага.

Няма на Беларусі нікога і з нашчадкаў Ядвігіна Ш. Загінулі тры яго сыны -- Лявон, Вацік, Казік, раскіданыя па ўсім свеце. Мусіла пакінуць Беларусь і дачка Ядвігіна Ш. -- Ванда Лявіцкая, літаратарка, выхавацелька. Яна паехала следам за высланым мужам, Язэпам Лёсікам, вядомым вучоным і грамадскім дзеячам. З Вандаю пакінула Беларусь і старэнькая пісьменнікава жонка Луцыя, яго ўнук і ўнучкі -- Юрась, Люцыя, Алеся. Калі іх высылалі з Беларусі, ім адпаведна было гадкоў па дзесяцьдванаццаць. Больш за паўстагоддзя яны не ступалі на дзедаву сялібу, не наведвалі Карпілаўку. Але летам 1992 года ўнучкі Лявіцкага завіталі ў Мінск. Расшукваю іх, пытаюся, ці хацелі б пабачыць Карпілаўку. "А як жа ж! Але як дабрацца? Аўтобусы туды не ходзяць... Хоць да Карпілаўкі не так ужо далёка -- усяго кіламетраў трыццаць пяць... Але ж пешкі не пойдзеш..."

Дарожны клопат бяру на сябе, дый яшчэ кінааператара з сабой, запрасіў. Праўда, машына трапіла не вельмі панская, не вельмі шыкоўная, але мае спадарожніцы і такой задаволены.

Едзем колішнім Даўгінаўскім трактам -- праз Навінкі, Цну, Дубаўляны, Паперню, Лускава, Жукаўку, Шапялі... Гэтым шляхам ездзіў калісь іхні дзед, Ядвігін Ш (Антось Лявіцкі). Ездзілі і яны, малыя, з сваёй матуляй Вандай. Ездзілі коньмі, на фурманках, ездзілі павольна, няспешна, разглядаючы наваколле. То былі ці не самыя шчаслівыя ў іхнім жыцці дні! А цяпер ляцім на злом галавы машынаю. Па дарозе згадкі, згадкі, згадкі. Вясёлыя, сумныя і так сабе. Мінаем вёску за вёскай, краявід за краявідам. Усё бліжэй і бліжэй колішняя сядзіба Ядвігіна Ш. Пайшлі прыгожыя, з выноснымі соснамі меднаствольія абапал дарогі лясы. Мясціны, якія для ўнучак Лявіцкага сталі непазнавальнымі, называю я. Вось і гэты кут адразу за Жукаўкай, як масток пераедзеш, аблеплены летнімі фазэндамі мінчукоў, патрабуе майго каментару. "Гэтая мясціна, -- кажу я, -- калісь Здарэннем называлася". Назва гэтая ўнучкам Лявіцкага знаёмая. З маленства яны яе чулі. Прыгадваюць, у доме часта казалі: "Бабка ў Здарэнне пайшла... А чаго? Там манаполька была, карчма, то можна было штокольвек купіць".

Ад Здарэння да Карпілаўкі ўжо рукой падаць. Бачу, больш пільна пачалі кабеты ўглядацца ў прыдарожныя краявіды. Вось невялікая лугавінка пры дарозе -- уся ў красачках. І зноў успамін... Як былі малыя, гулялі "ў яешню". А што такое "яешня"? Рвалі рамонкі, абрывалі пялёсткі -- і з жоўценькіх бубачак мелі сабе для пацехі яешню...

Маленства, маленства! Добрае яно пры маме з татам! Добрае яно пры бабцы! Добрае яно пры сонейку! А яшчэ лепшае і за дзядулем! Ды толькі ўнучкам не давялося спазнаць дзядулевай пяшчоты. Затое дзядуля пакінуў ім добры дом, дагледжаны кут. І добрую памяць пра сябе. І не толькі сямейную, але і народную. Дзе гэта ўсё?

Унучкі Ядвігіна Ш. з машыны, здаецца, не выйшлі, а вылецелі, як птушкі з клеткі, для якіх будзе зараз дзіва, воля. Азірнуліся наўкола. Божа, якое тут харараство! Тыя ж, але моцна, на шэсцьдзесят гадоў, пастарэлыя прысады. Трава ўпояс. Сярод травы дзе-нідзе здзічэлыя яблыні. З яблыкамі, вядома. Смакуюць! Нішто -- есці можна. А кветаў колькі! Не ведаю, чаму, Люцыя ды Алеся кінуліся найперш на кветкі. Пасля ўспаміналі -- гадалі, дзе стаяў дзедаў дом. Знайшлі і тое хатнішча пры экзатычных аграмадных дрэвах -- срабрыстых высачэзных таполях, лістоўніцах. Якім жа ён ім памятаецца? Ім, малым, здаваўся вялікім і высокім з доўгай, праз усю будыніну, верандай -- ганкам. Веранда была з боку саду. Дамок меў пяць пакояў: кухню, сталоўку, гасцёўню, яна ж і бавельня, святліца, мамін доўгі пакой, спальня... З мэблі памятаюць жоўты клавесін. Стаяў у гасцёўні. Крэслы -- венскія. Лoжкі былі ўжо талёвыя. Драўляныя лічылі гарасвеччынай. Памятаюць і канапу. Канапа, скурай абцягнутая, з выгнутай спінкай, з разьбой уверсе. Мамін пакой меў каляровыя шкельцы: сінія, жоўтыя, аранжавыя, чырвоныя ца як гляне бывала праз іх, дык аж усё ў пакоі пераліваецца, зіхаціць. Што яшчэ?

... Была спякота, дык і пра рэчачку-ручаінку ўспомнілі. Знайшлі і крынічку, з якой калісь бралі ваду. Напіліся, наталілі смагу. Смачная карпілаўская вада! Сцюдзёная, зуб ломіць, у мозг заходзіць, а п'еш: невядома, калі зноў яе нап'ешся. Нахадзіўшыся, нацешыўшыся, прыселі. І зноў успаміны, зноў згадкі...

... Дзядулю свайго ўнучкі Ядвігіна Ш., вядома, не памятаюць. Калі ён памёр, Юрасю ішоў трэці гадок, Луцыі -- другі, а Алеся народзіцца ў 1923-м. Ядвігін жа Ш. пакінуў гэты свет у лютым 1922 года. А вось бабку, жонку Ядвігіна Ш, яе таксама звалі Люцыя, добра памятаюць. Яна гадавала іх. Калі пачалі раскідаць карпілаўскае гняздо, бабулю хтось прывёз да Ванды ў Мінск. "Наша бабка, -- згадваюць Люцыя і Алеся, -- была вельмі прыгожая. Усё крыўдавала на дзядулю: мала памагаў ёй, не займаўся гаспадаркай, усё некуды ездзіў. Гаварыла больш па-польску, але ўмела па-беларуску. З намі на высылцы старалася гаварыць па-расейску. Але гэтая расейская яе мова была дзіўная. Скажам, трэба згадаць, што тое ці іншае рабілася раней, на гады два ці тры, яна казала: "Это было года два-три тому вперед".

Унучкі Ядвігіна Ш. не з сваёй волі жывуць далёка ад Беларусі. Люцыя -- у Ліпецку, Алеся -- у Татарцы на Стаўрапольшчыне, у Армавіры. Кім жа ўнукі слыннага беларускага пісьменніка пачуваюць сябе?

-- Мы цяпер рускія. У нас ужо няма нічога беларускага.

Гэтак выказалася Алеся. А Люцыя запярэчыла:

-- Не, усё ж мы беларусы.

Я больш згодны з Люцыяй. Хіба ж можна толькі з-за таго, что выпала доля, хай і злая, жыць далёка ад Беларусі, змяніць і нацыянальнасць. Ды каму! -- унукам такіх свядомых беларусаў, якімі былі іхні дзядуля дый і мама з татам, якія паклалі ўсё на алтар Беларусі.

Паспешлівасць сваёй думкі тут жа прызнала і Алеся: "Мы ўсё ж трымаемся беларускіх звычаяў... Любім дранікі, бабку, гатуем зацірку, мачанку. І на Беларусь нас цягне..." І гэта так, і гэта праўда. І праўнук Лявіцкага Саша, Аляксандр -- жыць хацеў на Беларусі, марыў паступіць у мінскую, так званую сувораўскую вучэльню, ды нешта не выйшла. Так што будзем лічыць: Алесіна развага, хто яны цяпер -- беларусы ці рускія, -- сарвалася так сабе, без асаблівага роздуму, хаця і праўдзіва, бо, гадаваныя ў расійскіх абставінах, яны мусілі, хацелі ці не, пераняць з таго побыту шмат чаго. Але гэтае зусім не дае падставы парваць усе нітачкі з сваімі продкамі. Алеся яшчэ памятае колькі беларускіх вершаў. "Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе ня маю сілы!" -- гэта яшчэ з часу вучобы на Беларусі, а можа і ад маці. Ванда Лявіцкая ўсё ж расказвала дзецям пра Беларусь і мове вучыла. І чытае Алеся па-беларуску някепска.

З сабою на Беларусь Люцыя ўзяла і ўнука Міхаську. Для Ядвігіна Ш. ён ужо праўнук. Хлопчык з цікавасцю і сур'ёзнасцю аглядаў прадзедаву сядзібу. Здаецца, у яго таксама прабілася адчуванне: гэта і мая сядзіба. Я не прапусціў нагоды прапанаваць Міхаську прачытаць колькі радкоў па-беларуску. Разгарнуў я яму не абыякое апавяданне Ядвігіна Ш, а "Дуба-Дзядулю", балазе, ля яго мы прыселі. І вось Міхаська пачаў чытаць: "Амаль не ўся вёска зайздросціла мне майго надзелу. Шнур быў, праўду кажучы, ані большы, ані выгаднейшы, ані зямліца на ім не лепшая, -- можа, нават, горшая, -- бо пры канцы шнура была страшэнная гара, дзе апроч грэчкі ды ярыцы нічога не радзіла, але на самым версе гэтай гары рос такі дуб, што аж дзівіўся народ: веліч, таўшчыня, а сукі так разрасліся, што, здавалася, свет бы пад сябе хацеў пагарнуць.

Здавён-даўна ўсе звалі яго Дуб-Дзядуля.

Дык вот паслухайце, што мне пад гэтым дубам здарылася..."

Не скажу, што чытаў Міхаська бездакорна, але спакваля чытаў. Калі ж што было не так, падпраўлялі бабулі, найбольш Алеся. А затым быў карагод вакол Дуба-Дзядулі. Пабраўшыся за рукі, унучкі Ядвігіна Ш. з яго праўнукам кружылі вакол дуба. Як дзеці. Найстарэйшай -- за семдзесят, меншай -- семдзесят.

... Радзіма! Бацькаўшчына! Родны кут!

Калісь Ядвігін Ш., убачыўшы пасля доўгай вандроўкі свой дамок, рытарычна пытаўся ў чытача: "Вось бо ўзгорак, а там -- у долі векавыя дубы, ліпы стаяць -- мае дубы, мае ліпы! Сад відаць -- мой сад! А ўжо пры самым лесе паміж розных дрэў выглядае дамок -- мой дамок! Мой! Апісаць вам яго? Як жа я апішу, калі ён мой?! Бягу, ляту да яго!!"

Род Лявіцкіх належаў да старой патомнай беларускай шляхты. Ядвігін Ш. не фанабэрыўся гэтым. Ён шчыра служыў свайму народу, самаахвярна рабіў усё дзеля яго асветы, лепшай будучыні. Шляхетнасць дапамагала яму быць годным самому, быць годным імя чалавека і іншых прызнаваць за людзей. І не яго віна, што ў жыцці ўсё на свеце перакруцілі. Ён дужа быў непрыхільны да тых, хто клікаў усё руйнаваць і на тых руінах ладзіць штось новае: "Тыя, хто рассейвае не яднанне, а раз'яднанне, не дружбу, а варожасць, не любоў, а нянавісць, тыя не ўсведамляюць ніякай адказнасці не толькі перад кім-небудзь, але, я ўпэўнены, і самі перад сабой", -- казаў пісьменнік. Такім чынам, Ядвігін Ш. прадбачыў, прадчуваў, што можа нарабіць насілле, варажнеча. І яны нарабілі не толькі з яго слаўным родам, але і з усім народам. Вельмі трапна, разважаючы пра лёс Лявіцкіх, зазначыў інжынер-даследчык Алесь Жынкін: "Колькі страчаных надзей ды паламаных лёсаў! І не ад добрага жыцця, не па сваёй ахвоце мае землякі пакінулі родную старонку. Ім бы жыць і жыць у Мінску ды ганарыцца сваімі бацькамі. Язэп Лёсік, прызнаны літаратар, публіцыст, адзін з першых акадэмікаў АН БССР, ведамы на Беларусі і за яе межамі мовазнаўца. А маці -- Ванда -- беларуская літар ка ды перакладчыца... Алес Люцыя абавязкова пайшлі б па татавым шляху -- вучылі б дзяцей беларускай мове, Юрка -- старэйшы -- стаў бы вядомым на Беларусі электрыкам, даваў бы святло і цяплo ў родн аты. Усё было б добра. ілкі бацькоў былі б зараз побач. Але". Але бальшавіцкая ідэалогія пакіравала інакш: унукі Ядвігіна Ш. і ўсе іншыя яго нашчадкі бываюць на радзіме сваіх продкаў ды і сваёй радзіме толькі наездам, толькі гасцямі, і то рэдкімі.

А чаму б не вярнуцца нашчадкам Лявіцкага? Чаму б не жыць тут? Што замінае? "Калі б дамок быў -- то чаму б і не? А так... Дзе прытуліцца? Каму мы тут патрэбныя?"

Як ні крыўдна, як ні балюча чуць такое, але мусім сказаць, што рэчаіснасць такая якраз: патрапіць на Беларусь беларусам не так проста. Наш урад пра каго хочаш клапоціцца, толькі не пра тых, хто мае спрадвечнае права жыць на сваёй зямлі. Сярод іх і нашчадкі Ядвігіна Ш.

... Пакуль сядзіба Антона Лявіцкага пустуе. Але доўга гэтак, перакананы, не будзе. Хто яе заселіць? Выпадковыя людзі ці, можа, праўнук Ядвігіна Ш. Міхасёк? А што? Скончыць школу, стане дарослы і прыедзе на Лявішчыну, завядзе тут гаспадарку і палюбіць Карпілаўку так, як любіў гэты кут Лявіцкі. А пакуль да Карпілаўкі прыкідваюць вока людзі, якія і называюць яе Карпиловка, а суседнія Шапялі -- Шепелями... Але гэтага можа не здарыцца, калі пад сваю апеку Карпілаўку возьме музей Янкі Купалы, філіял якога два гады як заснаваны ў суседніх Харужанцах. Такі крок вельмі лагічны і натуральны. Карпілаўка і Акопы, Купалавы Акопы, побач. Іх трэба разам апавясціць літаратурным запаведнікам. Хай яны надалей сімвалізуюць творчую повязь двух самабытных пісьменнікаў, як гэта было пры іхнім жыцці.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

### БЕЛЫ ВОРАН

Час такі няпросты,
Час няроўны --
Толькі вельмі чулы,
Надта смелы
Ты ўсёроўна --
Белая варона,
А калі дакладней --
Воран белы!

І ў вясёлай стаі --
Зажурбелы,
Марамі ўзлятаючы
Высока,
Як сягае часам --
Белы сокал,
Як падчас вітае --
Бусел белы!

Воран белы --
Як бы ні чарнілі, --
Верыш -- не пакорны --
Ў час свой зорны!

...Толькі б не вярнуўся
Час,
якога
Так чакае вораг --
Воран чорны!

### МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА СЕНАЖАЦЬ

Майго дзяцінства сенажаць.
Прыйшлі мы з мамай
сена жаць.
Са мною роўная трава
Шугае ў гаі
Крапіва!

І мне прыемна, што яна
За канюшыну будзе нам
Да балаціны дамяшаць --
Зімой скаціну суцяшаць.

-- Мо лепш было б яе касіць!
-- З касой тут рады не дасі.
Нідзе не дзенешся -- цярплю,
Сярпом сагнуўшыся, сярплю.

Дзень
сонца жар разварушыў.
Зірнуў: аблокаў -- ні душы.
Хоць плач,
Калі жаданне ёсць:
На твары пот не выдасць
слёз.
Ды мама жніўную пяе --
Аж гай заслухаўся яе!
І вось пачуў:
-- На сёння до-
Усохне -- будзе сем пудоў...

...Нібы праз вопратку тады
Яшчэ смыліць мне праз гады
Майго дзяцінства сенажаць.
Прыйшлі мы з мамай
сена жаць.

І часта ўсмешкаю кране --
Што аніколечкі мяне,
Хоць быў я неслухам
парой,
Не біла мама крапівой.

* * *

Ой ды ўтрэскаўся
па вушы
Гром у рэчку ля сяла!
І матуля да вяселля
Рыхтавацца пачала.

Хоць адразу,
быццам ягад,
Перабрала
многа дум;
Хоць і строгасць воч
не зразу,
Як на чыстую ваду,
Раптам вывела на слёзы;
Хоць было зусім няўцям:
Як камусь мядовай стала
Гэта горкае дзіця!

Толькі, любая матуля,
Як дачушкі ні любі,
Ды віна такім салодкім
Ты ўсё роўна не рабі,
Бо ўсё роўна госці --
-- Горка! --
Закрычаць,
І ў далеч год
Выйдзе з рук тваіх дачушка,
Быццам рэчка з берагоў.

Выйдзе,
Раз ужо каханнем
Перапоўніцца змагла!..
Ой ды ўтрэскаўся ж
па вушы
Гром у рэчку ля сяла!

"ЧОРНАЯ КАРТА"
Уладзіміра ДУДЗІЦКАГА

# "НЕ ЗНІШЧАЛЬНЫЯ ДУШЫ ЛЮДСКІЯ..."

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

И в сентябре 1930 г. я был принят студентом Минского белпедтехникума со стипендией. Передо мной была открыта ширь и воля... Но надежды не осуществились. Я был исключен из техникума. По своему происхождению и натуре я не имел гнилых и враждебных настроений, но без всяких оговорок был отброшен от учебы... и пошел работать, поступил в редакцию "Советской Белоруссии" на работу в качестве стильредактора. Начал посещать курсы в БГУ и, досрочно окончив их, был переведен на первый курс литературно-лингвистического отделения Минского высшего педінститута.

Собственноручно написал --
Гутько Владимир.
16.V.33 г."

Выключаны ж з педтэхнікума ён быў за тое, што сябраваў з маладымі беларускімі паэтамі, сам спрабаваў пісаць вершы па-беларуску, а гэта ўжо была "нацдэмаўшчына". Па такой жа прычыне У.Дудзіцкі быў затым выключаны і з пединстытута, пра што пісаў пазней у "Беларускай газеце" (3 мая 1944 г.): "23 лютага 1933 года быў арыштаваны і пасаджаны ў Менскую турму, потым -- у "амерыканку" НКВД. Гэта быў так званы другі закрыты працэс "нацыянал-дэмакратызму". Пад гэтай шыльдай ва ўсёй Беларусі было арыштавана больш трохсот чалавек. Сярод іх шмат беларускіх паэтаў, празаікаў і літаратараў: Змітрок Астапенка, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Мікола Нікановіч, Уладзімір Сядура, Сяргей Русаковіч і шмат іншых.

Пасля 9 месяцаў, паводле пастановы Калегіі НКВД СССР, быў высланы тэрмінам на тры гады ў канцэнтрацыйныя лагеры Сібіры. Кару адбываў у Новасібірску, а пазней у горадзе Марыінску. Па адбыцці пакарання ў канцлагеры скіравалі ў Сярэднюю Азію, у Ташкент. Прытулкам сталі сады і ўзбекская чайхана. Часова працаваў у якасці літаратурнага работніка ў газеце "Физкультурник Узбекистана". Выратавала малярыя: захварэў і дамогся праз год звароту на Бацькаўшчыну".

Жыў некаторы час у Віцебску, дзе ўдалося нават здаць экстэрнам экзамены за пединстытут і атрымаць дыплом настаўніка, да якога У.Дудзіцкі ішоў так доўга і цяжка. Пачаў выкладаць беларускую мову і літаратуру ў школе, на медыцынскім рабфаку і ў пединстытуце, адначасова падрабляў у газеце "Віцебскі пралетарый" стыльрэдактарам. Аднак савецкія ўлады хутка схапіліся і не дазволілі былому "нацдэму" навучаць маладое пакаленне роднай мове. У.Дудзіцкі вымушаны выехаць у Расію, але напярэдадні вайны вярнуўся ў Мінск. Жыць нелак трэба было, і ён пачаў працаваць у Ветэрынарным тэхнікуме ў Курасоўшчыне (цяпер прыгарад сталіцы). Усе ваенныя гады знаходзіўся ў Мінску, працаваў у "Менскай газэце", друкаваў там, а таксама ў часопісе "Новы шлях", газетах "Раніца", "Новая дарога", "Голас вёскі" свае вершы, паэмы. За плячамі засталіся этапныя дарогі, а напярэдадні дарогі выгнання, чужыя краіны. Як і многія рэпрэсіраваныя беларускія пісьменнікі, якім пашчасціла вырвацца са сталінскіх канцлагераў, ён пакінуў радзіму ў чэрвені 1944 года. Жыў напачатку ў Германіі, затым у ЗША, Венесуэле.

**Не пытайся, мой любы дружа,**
**Як жывецца ў краі гэтым...**
**Буду несці ў сэрцы мужнасць,**
**пакуль песня яшчэ не спета...**

*("Пакуль песня яшчэ не спета").*

У. Дудзіцкі шмат друкаваўся і ў эміграцкіх беларускіх выданнях (часопісах "Пагоня", "Шыпшына", "Божым шляхам", "Конадні", альманаху "Ля чужых берагоў", газетах "Раніца", "Бацькаўшчына"). Лірыка паэта гэтага часу прасякнута тугою па Радзіме, хоць Радзіма была такой жорсткай, нелaскавай да яго. І тым не менш, ён успамінае свае "гады крылатыя, юнацкія гады", родную сядзібу, вясковую раніцу, знаходзячы для іх апісання глыбока-эмацыянальную моўную афарбоўку, параўнанні, трапныя выразы:

**Хіба шмат такіх вось**
**нашых раніц**
**Ёсць дзе-небудзь**
**у якой краіне!**
**І раса слязою ногі раніць,**
**І сады цвітуць пад небам сінім.**

**У гаі альховым, каля млыну,**
**Улагодзіўшы ўчарашні клопат,**
**Дзіўны россып песняў салаўіных**
**Абуджае соннае балота.**

**Прачынаюцца двары і хаты,**
**І ўжо дзесьці каля вёскі нейкай**
**Хтосьці першы раз яшчэ пакратаў**
**Струны пастуховае жалейкі...**

*("Не зракуся").*

Яго выгнанніцкі шлях яскрава прасочваецца ў вершах таго часу. Пакідаючы Нямеччыну, якая дала часовы прытулак, ён не можа даравацъ таго гора, што было прынесена яго Бацькаўшчыне ў апошняй вайне:

**І цяпер, як апошнім дотыкам,**
**Вычуваю твой боль і сум, --**
**Над шпілямі халоднай готыкі**
**Вусны гнеў мой табе нясуць.**

**Дзе нядоля мая прытуліцца --**
**Не пытайся пакуль, -- маўчы:**
**Да палацаў на родных вуліцах**
**Ты спаліла мае ключы...**

*("Адменная ода").*

І вось ужо "хвалі ад берага -- далей і далей...", але яму б хацелася, плывучы ў Амерыку, каб [illegible] хвалі "кроплямі цёплымі -- дождж[illegible] чыстым" спорна разліліся "над кра[illegible] вячыстым" -- краем, што стогне і б'ецца ў скрусе... гора ж і ім, і маёй Беларусі..." Аднак давялося яму прыбыць "у новы край, далёкі і нязнаны, з пакункам дум -- тугой набраклых мар"... І гэту тугу ён імкнуўся развеяць, вандру[illegible] па ўсяму амерыканскаму кантын[illegible]. ("Плыві і кайся, прыліпай да чужых зямель -- У Пэру, ля Канадскіх пасек і такое трымай на ўме: за ўпартасць тваю, няпослух, за падняты ўгору сцяг -- не прачнуцца ў песнях вёсны на абломках скупых жыцця"). І паэт пераканаўся ў адным: "Ля родных стрэх шукайце, дзеці, волі". Нягледзячы на экзатычную прыгажосць чужых краёў, багатае і ўладкаванае жыццё, паэт увесь час адчуваў, што "вельмі ж не стае журботнае, азёрнае мае, далёкае і блізкае -- адзінай..." І задаваўся пытаннем: "Калі ж, калі знітуюцца з Радзімай пад сонцам дум спялюткія невады?" І сапраўды, цяжкая гэта хвароба -- настальгія, нічога нельга зрабіць з душой-пакутніцай, якая не можа прырасці да чужыны:

**Не першы раз і не апошні,мусіць,**
**баліць душа, і рады не дасі.**
**Сніцёся мне вы,**
**рэкі Беларусі,**
**і ты, журботная азёраў сінь...**

Адчуўшы "смяротнае зямлі чужой ярмо" ("І мала слоў, каб выказаць настрой: мая туга -- бяз краю і бяз меры..."), паэт вырашае ажыццявіць свае выспеўшыя ў бясконцых вандраваннях намеры, вярнуцца ці хаця б наведаць Бацькаўшчыну. Ёсць у Дудзіцкага прарочы верш, прысвечаны самому сабе -- "Чорная карта" (напісаны ў Венесуэле):

**Калі здзейсняцца мроі і сны, --**
**раскажы, неслухмяны, упарты,**
**як марудна з зубоў сатаны**
**вырывалася чорная карта...**

"Мроі і сны" здзейсніліся, ён вярнуўся на Радзіму, але ніколі ўжо, відаць, не раскажа, што тут зноў яму выпала "чорная карта" і што не знайшоў "непаўторнай, сінявокай мае Беларусі..."

Відаць, позна спахапіліся мы расшукваць сляды паэта, цяжка знайсці цяпер праўду пра тое, што з ім адбылося ў 70-я гады ў СССР. Інстытут літаратуры Акадэміі навук Беларусі, звярнуўшыся ў КДБ з просьбай дапамагчы ў гэтых пошуках, атрымаў ад гэтай установы наступны адказ:

Комитет государственной безопасности Республики Беларусь
220623, г.Минск.
"5" июля 1993 г.
10/1188
На 107-111
от "24" июня 1933 г.

Копия
Директору Института литературы им. Я. Купалы АН Республики Беларусь
В.А. Коваленко

Уважаемый Виктор Антонович!

В КГБ Республики Беларусь имеются сведения на Гутько (Дудицкого) Владимира Ермолаевича, 1910 года рождения, уроженца дер. Дудичи Пуховичского района, Минской области, который Постановлением Особого совещания при Коллегии ОГПУ от 10 августа 1933 года по обвинению о контрреволюционной деятельности был заключен в исправительно-трудовой лагерь сроком на три года.

Определением Судебной коллегии по уголовным делам Верховного суда БССР от 24 августа 1956 года уголовное дело на Гутько В.Е. производством прекращено за недоказанностью состава преступления.

Сведений о возможной повторной судимости и дальнейшей судьбе [illegible]утько В.Е. в КГБ, информационных [illegible]рах МВД--УВД Республики Беларусь и МВД Российской Федерации не имеется.

**И.О. Председателя Комитета**
**А. Кулеш.**

Можа сапраўды "сведений не [illegible]еется", бо афіцыйна сцвярджаецца, што рэпрэсій у 60--70-я гады ў СССР не было, а можа не ўсё яшчэ нам дазволена ведаць?

Прачытаўшы гэту афіцыйную паперу, я вырашыла пабываць у роднай вёсцы паэта, у Дудзічах, бо, вядома ж, узнікала пытанне: калі ён адразу па прыездзе не быў затрыманы ў Маскве і даехаў да Беларусі, то не мог найперш не пабываць у Дудзічах, тым больш, што гэта зусім недалёка ад Мінска (50--60 кіламетраў). Дудзічы раскінуліся на беразе ракі Пціч (чыстай, павольнай і шырокай у гэтых мясцінах), як два крылы, з хатамі, дамамі рознага дастатку і ўладкаванасці, сапраўды найпрыгажэйшы куточак Беларусі. Нездарма ён мроіўся паэту ў снах ("Каб не рукі, а крылы магутныя меў, -- узмахнуў бы я крыламі..."), і адразу ўспомнілася паэтава: "Знаёмы, родны водыр поля,.. дзе лугоў краса, гаі і рэчка, азёры думныя, лясы -- найдаражэйшы скарб прыроды". Была якраз восень, якую любіў і часта апяваў у сваіх вершах У. Дудзіцкі ("І плачуць па восені руннай завеяў журботныя струны", "І пахне хмеліва зямлі, і журавы на поўдзень з хаты нясуць, бы тыя караблі, на крылах клопат свой багаты", "...шумелі шыракалістыя сады, налітыя крамяным воскам..."). Усе гэтыя карціны яскрава паўсталі ў вёсцы, па якой мы хадзілі з хаты ў хату, распытваючы пра сям'ю Гуцькаў. Вядома ж, людзей з такім прозвішчам было нямала ў Дудзічах, але мы з Людмілай Пецінай, старшынёй жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі, нінк не маглі натрапіць на тых, хто ведаў вялікую вясковую сям'ю, якая складалася з маці, бацькі, чатырох сыноў (Фёдара, Рыгора, Якава, Уладзіміра) і чатырох дачок (Дар'і, Алены, Параскі, Ганны). І толькі ў пасёлку Пціч, побач з Дудзічамі, мы знайшлі пляменніцу Уладзіміра Дудзіцкага -- Гуцька Вольгу Фёдараўну (1927 года нараджэння), якая добра памятала свайго дзядзьку Уладзіміра, неаднойчы да вайны бывала на яго кватэры ў Мінску. На маё пытанне, ці прыязджаў у 60--70-я гады Уладзімір Дудзіцкі на радзіму, у сваю вёску, яна адказала адмоўна. Пасля таго, як ён эмігрыраваў у 1944 годзе, ніякіх звестак пра яго яны не мелі. Браты і сёстры Уладзіміра ўжо ўсе памерлі, пахаваны, як і іх бацькі, на вясковых могілках. Але жывуць шматлікія пляменнікі ў Дудзічах, у Пцічы, у Мінску.

Сустрэліся мы і з мясцовым настаўнікам, цяпер пенсіянерам Кучынскім Аляксандрам Іванавічам, равеснікам і сябрам Уладзіміра Дудзіцкага. Ён добра памятае паэта з дзяцінства, вучыўся разам з ім у школе, а пасля ў Мінскім пединстытуце. Яны былі нават разам рэпрэсіраваны ў 1933 годзе. Успамінаючы вайну, Аляксандр Іванавіч расказаў, што вяскоўцы ведалі, як і кім У. Дудзіцкі працаваў у Мінску, "ён нікога не страляў, крыві на яго руках няма. Друкаваў свае вершы, быў выбраны кіраўніком аддзела беларускай культуры Беларускага культурнага згуртавання (у красавіку 1944 года). Пасля таго, як пакінуў радзіму, быццам згінуў, і ў 60-я, ні ў 70-я гады сюды не прыязджаў, бо мы б у вёсцы ведалі пра гэта..." Знаёмыя і родныя хацелі даведацца ў мяне што-небудзь пра лёс паэта, я расказала, што ведала, але галоўнага пытання мы так і не высветлілі... Што з ім адбылося тады, у 70-я гады, калі ён прыляцеў у Савецкі Саюз, дзе абарвалася, ды і ці абарвалася яго жыццё?

Вось што пісала мне ў адным з пісем Вера Уладзіміраўна адносна тых звестак, якія існуюць на эміграцыі пра трагічны лёс У. Дудзіцкага: "Дорогая, многоуважаемая Лидия Семеновна! Спасибо за все заботы, за старания. Пропал человек, как будто никогда и не жил на этой земле. Дело в том, что он вернулся на Родину приблизительно в 1971--72 годах. Страшное дело! Мне казалось, что его расстреляли. Но приблизительно в 1980 году, когда я была в Нью-Йорке и посетила радиостанцию "Свобода", там мне сказали, что к ним заходил какой-то человек, эмигрант из СССР, который сидел с Дудицким в мордовском концлагере, и он якобы рассказал ему о себе. Это все, что я знаю. Искать его надо (его дело?) за эти годы и этот лагерь. Я надеюсь, дорогая Лидия Семеновна, что разыщете его родственников, его след в Руденском районе..."

Што ж, слядоў яго ў роднай вёсцы я не знайшла, хаця мне пашчасціла сустрэць родных і знаёмых паэта, а вось што датычыцца мардоўскіх канцлагераў,.. то як быць з адказам КДБ на запыт Інстытута літаратуры; нарэшце таго, што "сведений о возможной повторной судимости и дальнейшей судьбе Гутько В.Е. в КГБ, информационных центрах МВД--УВД Республики Беларусь и МВД Российской Федерации не имеется"? Можна ім верыць ці не? Вядома ж, і звесткі Веры Уладзіміраўны няпэўныя, недакладныя, але падзея ў жыцці У. Дудзіцкага адбылася -- ён вярнуўся на Радзіму, і тут знік ягоны след... А як хацелася сказаць яму:

**Вось і дом...**
**І крывая рабіна ў жалобе --**
**без лісця,**
**і чырвонае сонца**
**у хмарах над Лысай гарою...**
**Я маўчу.**
**Я да клямкі дзвярэй**
**дакрануцца баюся**
**і паклікаць...**
**Каго?**
**Цішыня --**
**ні бацькоў і ні любай...**
**Вецер прысак**
**гумна раздзімае**
**і попел цярушыць**
**па-над сценем маім**
**ля апошняга ў вёсцы зруба...**

*("Я не ведаю, дзе ты...").*

Венесуэла, 1955.

Да гэтага часу не сабраны і не выдадзены асобным зборнікам шматлікія вершы Дудзіцкага, раскіданыя па эміграцкіх газетах і часопісах. Аднак даўно наспела неабходнасць паставіць хоць такі помнік на невядомай магіле таленавітага беларускага паэта, вярнуць яго імя і творчую спадчыну нашчадкам і Бацькаўшчыне.

**Лідзія САВІК.**

